


# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

11 жніўня 2017 года №32 (1163)

Інтэрв'ю з галоўным трэнерам ФК "Маладзечна": **"Пасля пройгрышу хочацца ўдарыць гульцоў".**
старонка 22

**Падчас буры на Вілейскім вадасховішчы дзяўчынку забіла дрэвам**
старонка 4

**Разьбяр з Купы распавёў пра скульптуру, арнамент і беларускасць**
старонка 20

# Вулічныя гандляры ў Красным: **"Аддадзім і ў два разы танней, толькі гандлюйцеся!"**

старонка 3

Фота Наталлі тур

# Дамоў падскокам і каля дамафона не больш за хвіліну

## Падвал дома па вуліцы Ясінскага ў Маладзечне аблюбавалі блохі

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыхары дома №19 па вуліцы Ясінскага стараюцца як мага хутчэй трапіць у кватэру, таму ледзьве не падскокам лятуць дадому, а каля дамафона затрымліваюцца не больш за хвіліну.**



Фота http://истра.рф

**Загадчыца аддзялення прафілактычнай дызінфекцыі Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Святлана Сінягоўская адзначыла, што прычынай з'яўлення блох у падвале з'яўляюцца бадзяжныя жывёлы, якіх падкормліваюць жыхары.**

Разгадка такой з'явы вельмі простая – у падвале і каля ўвахода ў дом завяліся блохі.

– Такая сітуацыя паўтараецца ўжо не першы год, – абураная жыхарка дома №19. – Як толькі цяплее, блохі адразу ж з'яўляюцца ў падвале. У верасні і кастрычніку знікаюць. З'ява вельмі непрыемная: ні ў падвал не зайсціся, ні каля дзвярэй спакойна ключы не дастаць, адразу ж налятаюць насякомыя. А ад укусаў на доўгі час застаюцца чырвоныя плямы.

Жанчына расказала, што была паўтара тыдні ў адпачынку, не жыла ў кватэры, меркавала, што насякомых вывелі, бо каля дамафона было спакойна.

– Адправіла мужа па ровар у падвал, няма і няма, – расказвае яна. – Прыходзіць, пытаюся, ці не на Марс лятаў. Ён патлумачыў, што недзе паўгадзіны спатрэбілася, каб абтрэсці блох з ног.

### Сезон блох ад лета да восені

Намеснік начальніка ЖРЭУ №3 **Раман Страбко** адзначыў, што з такой праблемай жыхары звярнуліся 4 жніўня. Арганізацыя адразу ж накіравала ліст у Маладзечанскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

– Напярэдадні апрацоўкі наша служба вывешвае абвестку, што будзе праводзіцца дэзінфекцыя супраць блох, – тлумачыць загадчыца аддзялення прафілактычнай дызінфекцыі **Святлана Сінягоўская**. – Таму пажадана, каб прыватныя памяшканні былі адкрытыя для доступу. Такім чынам, апрацоўка прынясе больш плён.

Як адзначыла спецыяліст, якасць апрацоўкі залежыць і ад стану памяшкання.

**Калі яно сухое, у ім няма смецця, будаўнічых матэрыялаў, бадзяжных жывёл, на наступны дзень насякомых ужо не будзе.**

На працягу сутак пасля апрацоўкі без сродкаў абароны непажадана заходзіць у падвал – рэчывы з'яўляцца таксічнымі. Калі праветрываць памяшканне, срокі выветрацца.

– У многіх выпадках, што ў падвалах заводзяцца блохі, вінаватыя самі жыхары, – падсумоўвае Святлана Станіславаўна. – Яны захламляюць памяшканне, падкормліваюць бадзяжных жывёл.

Пачынаючы ад лета і да халодных восеньскіх дзён у службу рэгулярна паступаюць заяўкі, каб вывесці блох з памяшканняў.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

# У Маладзечне працуе адлоў жывёл. Пародзістага ката схапілі на вачах у яго 6-гадовай гаспадыні



**Раніца ў рэдакцыі пачалася з дзіцяга плача ў трубку: Машку адлавілі!**

У рэдакцыю патэлефанавалі жыхары вуліцы Міру, дзе на вачах у дзяцей адлоўлівалі катоў.

Разам з бадзяжнымі катамі прадстаўнікі ЖЭУ забралі і пародзістых катоў, якіх выпускаюць у двор выключна ў ашыйніках.

Дзяўчынка бачыла, як схапілі яе пародзістую котку.

Расказваюць дарослыя:

– Дзяўчынка выйшла разам з катом на прагулку, тут прыехала служба адлову. Налілі валяр'янкі, каты збегліся. На просьбы дзяцей пакінуць жывёл у спакоі, "адлоўшчыкі" сказалі: у горадзе шаленства, карантын.

Машына з'ехала. Дзеці ў істэрыцы засталіся сядзець у двары.

Мы патэлефанавалі адлоўшчыку жывёл Анатолю, які разам з прадстаўніцай ЖЭУ, майстрам **Ліліяй Бельскай** ездзіў у гэты рэйд:

– Мы не забіралі катоў у ашыйніках! Я пра гэтую сітуацыю мы ведаем. Дзіця расплакалася з-за таго, што ёй стала шкада іншых катоў. А яе коціка яна забрала дамоў. Адлоў забірае толькі катоў, якія выглядаюць як бадзяжныя, або якія падобныя на хворых жывёл.

Да размовы далучылася Лілія Бельская:

– Ёсць правілы ўтрымання жывёл. Жывёла хатняя павінна быць дома. Але калі кот з ашыйнікам – гэта яшчэ не гарантыя таго, што яго не адловяць. На ашыйніку павінна быць таблетка з адрасам гаспадара.Паверце, калі нам тэлефануюць бацькі і кажуць, што дзіця захварэла на лішай і паўгода не могуць вылечыць, тут ужо не да жалю да коцікаў. Тым больш у горадзе зафіксаваны выпадак шаленства праз бадзяжнага ката.

Таму гаспадары жывёл, не выпускайце жывёл на вуліцу. Бо вярнуць іх дадому магчымасці не будзе. Маладзечанскі адлоў адразу знішчае катоў. Нават тых, хто ў ашыйніках.

**Наталля ТУР.**



**Камент-эксперт**

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

Так бывае кожнае лета: спачатку дажджы, а потым пік цеплыні. З гэтым нельга нічога зрабіць. Я бачыла не раз, як блохі скачуць людзям на ногі ў аўтобусах. Трэба прызнацца, што гарадскі транспарт у антысанітарным стане. ***Таццяна.***

Звярніцеся ў эпідэмстанцыю. У нас таксама былі блохі ў падвале. Мы жылі на першым паверсе, дзеці маленькія тады былі ў кватэры. Гэта жудасна. Усе жыхары пад'езда сабралі подпісы і накіравалі ў эпідэмстанцыю. Работнікі прыйшлі і апрацавалі падвал, чым не ведаем. Аднак блох няма ўжо некалькі гадоў. ***Кацярына.***

У любым падвале ёсць блохі – гэта біч нашых падвалаў. ***Нікіфар.***

Кашмар. Жывадзёры, яшчэ і на вачах дзяцей! А калі б быў выпадак захворвання на шаленства, стаялі б на вушах і паліклінікі, і ветлякарні, а там цішыня. Ды і па раёне даўно шаленства не чуваць было, адкуль яму ўзяцца. Варвары ... ***Аляксандра Сапач.***

А чаму ні ў каго не ўзнікае пытання адкуль бяздомныя жывёлы з'яўляюцца? Так, ёсць тыя, якія нараджаюцца на вуліцы і даюць жыццё іншым, але ж не ўсе яны нарадзіліся ў такіх умовах ... Колькі было выкінута? Чаму няма адказнасці за хатніх жывёл? **Яўгенія Шыманская.**

Трэба забіраць, стэрылізаваць і адпускаць па месцы жыхарства. Але гэта не ў нас у краіне. ***Аляксандр Алейнік.***

Праз д**** - мамашу, якая дазволіла свайму дзіцяці штурхаць нагамі дваровую котку, цяпер усё гэта варварства дзеецца. Вы хоць ведаеце, як іх там каламі і рыдлёўкамі дабіваюць ???????? Душа на часткі рвецца, бачачы гэта. ЛЮДЗІ !!!!!!!! ГЭТА Забойства !!!! ... Звер ратуе звера, а людзі забіваюць... Гэта не горад. ***Таццяна Боскіна.***

Усё правільна зрабілі, усё на карысць нашых дзяцей. ***Юлія Садоўская.***

А хто вам перашкаджае адкрыць прытулак і даглядаць за бадзяжнымі жывёламі? У дзяржавы на людзей грошай няма, а вы хочаце, каб на жывёл выдзелілі? Ужо лепш хай іх адлоўліваюць, чым вось так жывуць. Канешне, шкада ўсё жывое, але часам выхад толькі такі. ***Алёна Пыск.***

Куды звяртацца па пытаннях адлову? А то ні разу не бачыла, каб наша дваровая папуляцыя катоў знікала або прыкметна скарачалася. ***Танюша Ігнаценка.***

А трэба каб пародзістыя каты і сабакі бегалі па вуліцы? Завёў ката ці сабаку трымай іх у сваім падворку. **Святлана Клімовіч.**

Пагадзіцеся, што часам мужыка ці жонку утрымаць на сваім дварышчы складана... А тут коцік!!! Прырода бярэ сваё,бо ўсім на вольніцу ахота! ***Аляксандр Раткевіч.***

І Гасцінец, 76 апошні пад'езд поўны блох і катоў ***(Ілля).***

# Пакуль ёсць бульбачка і цыбулька – як-небудзь пражывём

МАЛАДЗЕЧНА

**Гандляры, што прадаюць сваю агароднiну ля Краснага, вельмi сцiплыя. Прадстаўляліся імёнамі сваіх яблычкаў і бульбачкі. Гатунак "Алена" ці "Марыя". Ну і называйце мяне так.**







Уладзімір Будніцкі прадае памідоры, яблыкі і гладыёлусы, якія на сваім падворку вырасціла яго дачка.

Раніцай у сераду гандлёвыя рады пад Красным і ў самім мястэчку пакуль пустыя. Паціху з'яўляюцца першыя гандляры. Жанчыну сын з кабачкамі, цыбуляй, яблыкамі прывёз з Канчанаў.

У самім мястэчку сваімі памідорамі, яблыкамі і гладыёлусамі гандлюе **Уладзімір Будніцкі** разам з дачкой.

– Я вырошчваю, а дзядуля прадае, – кажа жанчына.

Уладзімір Барысавіч 15 жніўня адсвяткуе сваё 90-годдзе. Ён жыве ў Бабруйску, а на лета прыязджае да дачкі, дапамае ей гандляваць тым, што яна вырасціла на сваіх 15 сотках.

– Пра памідоры магу доўга расказваць, – працягвае жанчына. Адных толькі чорных гатункаў у мяне – гэта Поль Робсан, сашэр, японскі труфель чорны, зялёны гатунак – малахітавая шкатулка, гэтыя – паказвае на чырвоныя і жоўтыя гіганты – алтайскі асілак, прэзідэнт.

Смачныя, кажа ўсе. Прадаюць іх бацька з дачкой па 3 рублі за кілаграм. Наогул, цэны бяруць, як гаворыцца, з галавы.

– Ну як вызначаем, колькі што каштуе, – кажа Уладзімір Барысавіч, – як усе прадаюць, так і мы.

**Пяцілітровае вядро яблыкаў гатунку "Алена" да прыкладу каштуе 2 рублі.**

– А вось гладыёлусы не ведаю, па колькі прадаваць, – кажа дачка Уладзіміра Барысавіча. – Тут прадавалі і па 10, і па 8 рублёў.

Якраз у гэты момант пад'ехала машына, жанчына падышла купіць якраз гладыёлусы.

– Колькі?

– 10 рублёў.

Жанчына зморшчылася.

– Ну давайце 8 рублёў.

Жанчына дастала з кашалька 8 рублёў – і шыкоўны букет з пяці жоўта-фіялетавых гладыёлусаў паехаў у бок Маладзечна.

**– Я б і за 5 аддала, – кажа прадавачка.**

Вывад: на дарозе трэба гандляваць.

Працоўны дзень у гандляроў доўжыцца ад 10 раніцы да 8 вечара.

– Па выхадных я сюды нават не прыходжу, – прызнаецца мне жанчына з Канчанаў. – Тут народу…

Потым падыйшла бліжэй і пытаецца шэптам:

– Скажыце, а ці праўда, што ўжо дазволілі салам з рук гандляваць? Тут прыязджаюць і смела так прама з зямлі гандлююць. Ну, праўда, смелыя пакупнікі яго купляюць. Я таксама гадую свінак, але каб прынесці да дарогі мяса ці сала, не. Гэта ж павінны правяраць у санстанцыі. Куды яны там у вашым Маладзечне глядзяць?

А пад абед, расказваюць гандляркі, з лесу прыходзяць дзеці , якія ўжо з раніцы назбіралі там грыбоў.

– Чарніц мала сёлета, вішань няма. Хаця пра вішні часта пыталіся пакупнікі. Я так і казала: забудзьцеся! Таму і сама кампоты закатвала са сліў і кабачкаў, з кабачкоў і парэчак. Варэнне не закатваю. Так, перацёрла клубніку з цукрам і закрыла.

Гандляваць тут будуць да верасня, пакуль будзе бульба.

– Але вось што цікава, – працягвае мая суразмоўца-шаптуха. – Прадае тут бульбу адна жанчына, а я ведаю, што ў яе агарода няма. Дзе яна яе бярэ?

Гандляры прызнаюцца, што для іх няма розніцы, пад'язджае чалавек на джыпе ці запарожцы.

–Хаця бывае, – кажуць жанчыны, – што той, хто прыязджае на дарагіх машынах, рэшту не чакае.

Да вулічных гандляркак любяць прыходзіць і мясцовыя жыхары. І пагутарыць і купіць кабачок ці цыбульку.

– Раней гандаль больш бойка ішоў, – скардзяцца тут. – Цяпер усе радзей і радзей машыны спыняюцца. Але ёсць свая цыбулька, свая бульбачка, як-небудзь пражывем.

Фота аўтара.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.08 | 10.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9512 | **1,9537** |
| Еўра | 2,3100 | **2,2943** |
| Злоты, 10 | 5,4287 | **5,3825** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2205 | **3,2575** |
| Грыўня, 100 | 7,5292 | **7,5960** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 2.08 | 9.08 |
| Еўра | 2.2850/2.3100 | **2.2900/2.3150** |
| Долар ЗША | 1.9350/1.9550 | **1.9450/1.9600** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 2.08 | 9.08 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | Павільён зачынены з-за спякоты | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | | **6,95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,95 | **3,80** |
| Селядзец, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 10,00 | **11,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,30 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,20** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,93 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 5,95 | **7,50** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 0,70 | **0,40** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Морква, 1 кг | 1,10 | **1,00** |
| Кабачкі, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 3,45 | **3,45** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Дыня, 1 кг | 1,00 | **1,50** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 0,70 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| Агуркі, 1 кг | 1,10 | **1,10** |
| Перац, 1 кг | 1,59 | **1,25** |
| Кавун, 1 кг | 0,70 | **0,75** |
| Вінаград, 1 кг | 2,99 | **3,95** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 4,60 | **5,50** |
| Персікі, 1 кг | 2,95 | **3,00** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,20 | **3,70** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,40 | **3,75** |
| Бананы, 1 кг | 1,79 | **1,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Гранаты, | 9,90 | **9,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,10 | **2,10** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,95 | **2,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | - | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

● НАВІНЫ

## Застаўся без карткі і грошай

ВІЛЕЙКА

3 жніўня ў міліцыю патэлефанаваў мужчына. Ён паведаміў, што з яго банкаўскай карткі знікла 100 рублёў.

У аддзеле крымінальнага вышуку распавялі, што пацярпелы выпіваў разам са знаёмым. Праз нейкі час да іх падышоў мужчына.

Віляйчанін даў незнаёмаму картку, сказаў пінкод і папрасіў набыць віно і цыгарэты.

Па словах пацярпелага, баланс на картцы быў 135 рублёў.

Незнаёмы пайшоў з карткай у магазін, аднак назад не вярнуўся. Увечары пацярпелы праз смс-паведамленне даведаўся, што з яго карткі знялі 100 рублёў. Пра гэта мужчына паведаміў у міліцыю.

## У вілейскім РАУС распавялі пра пагоню за п'янай жанчынай-кіроўцай

ВІЛЕЙКА

"Чырвоная хонда на дарозе каля Ільі едзе неяк вельмі неадэкватна," – такое паведамленне атрымалі 6 жніўня каля дзесяці гадзін вечара на тэлефон "102" вілейскія міліцыянеры.

Па словах намесніка начальніка вілейскага РАУС Кацярыны Млечкі, тэлефанавала жанчына-кіроўца, якая ехала ў той час каля Ільі побач з чырвонай хондай.

Супрацоўнікі міліцыі выехалі ў кірунку Ільі.

Праўда, чырвоную хонду, пра якую паведаміла пільная грамадзянка, заўважылі ўжо ў Лагойскім раёне.

На працягу кіламетра з мігалкамі даганялі машыну. Калі хонда нарэшце спынілася, супрацоўнікі міліцыі ўбачылі, што за рулём хонды – жанчына.

Яна была ў стане моцнага алкагольнага ап'янення. Разам з ёй у машыне ехалі яшчэ тры пасажыры.

На пытанне міліцыянераў пра тое, чаму не спынілася адразу, адказала, што ў машыне гучна іграла музыка.

Цяпер жыхарку Мінска чакае штраф і пазбаўленне права кіраваць аўтамабілем на тры гады.



## Затрымалі мужчыну, які краў бульбу з поля

ВІЛЕЙКА

Амаль 700 рублёў за дзесяць кілаграм бульбы можа заплаціць жыхар Вілейкі.

У выніку аднаго з рэйдаў супрацоўнікі вілейскага дэпартамента аховы сёння раніцай затрымалі мужчыну.

На полі, якое належыць вілейскай гатункавай станцыі, ён краў бульбу. Паспеў напапаць дзесяць кілаграм.

Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Кацярыны Млечкі,** мужчына цяпер пад адміністрацыйным арыштам. Па артыкуле "дробны крадзеж" за злачынства прадугледжаны штраф ад 230 да 690 рублёў.

## Дзень нараджэння на Віліі скончыўся трагедыяй

ВІЛЕЙКА

5 жніўня трое сяброў адзначалі Дзень нараджэння на беразе Віліі ля вёскі Даманава.

Два з іх пайшлі купацца, імяніннік застаўся на беразе. Мужчыны нырнулі.

У нейкі момант адпачывальнікі з іншага берага заўважылі, што плыўцы пачалі тануць.

Аднаго з іх людзі паспелі выратаваць. Другога, 33-гадовага жыхара Маладзечна, не змаглі.

Пра гэта расказала намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка.**

## Падчас буры ў сёрфінгіста зламаўся ветразь

МЯДЗЕЛ

Удзень 2 жніўня на выратавальную станцыю "Зубраняці" патэлефанавалі з раённага аддзела МНС і паведамілі, што адзін з сёрфінгістаў не вярнуўся на бераг. А між тым, ужо пачалася бура.

Выратавальны катэр выехаў на возера. Недалёка ад вострава ля вёскі Нікольцы супрацоўнікі станцыі ўбачылі сёрфінгіста.

Моцны вёцер зламаў ветразь. Мужчына дрэйфаваў на адной дошцы.

Праз 10 хвілін выратавальнікі даставілі яго на бераг. Ад медыцынскай дапамогі мужчына, жыхар Мінска, адмовіўся.

Пра гэта распавёў начальнік выратавальнай станцыі ў "Зубраняці" **Аляксандр Андрэеў.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Падчас буры на Вілейскім вадасховішчы дзяўчынку забіла дрэвам

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта распавялі ў вілейскім раённым аддзеле Следчага камітэта.**



На месцы трагедыі.

Трагедыя здарылася на беразе Вілейскага вадасховішча, недалёка ад вёскі Кобузі Вілейскага раёна.

Сям'я з дзецьмі адпачывала на вадасховішчы. Калі пачалася навальніца, двое дарослых і пяць дзяцей схаваліся ў мікрааўтобус.

Ад моцнага ветру на дах звалілася дрэва. 10-гадовая дзяўчынка, якая сядзела на заднім сядзенні, загінула на месцы ад атрыманых траўмаў.

2 жніўня – дзень, які ў Вілейскім, Смаргонскім і Мядзельскім раёнах адзначыўся навальніцамі з моцным ветрам, які валіў дрэвы і зрываў дахі.

Як распавёў начальнік вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда** стыхія адчувальна"прайшлася" па берагах Вілейскага вадасховішча.

Па словах спецыялістаў, некалькі разоў людзі тэлефанавалі ў выратавальную станцыю і прасілі або разабраць дрэвы, што зваліліся на машыны, або расчысціць дарогу ад паваленых дрэў.

– Тыя, хто быў далёка, тэлефанавалі, хто адпачываў бліжэй да станцыі, проста прыходзілі і прасілі дапамагчы, – прыгадвае начальнік станцыі падзеі таго дня. – Накіроўваў вадалазаў з піламі, каб вызвалілі дарогу і разабралі паваленыя дрэвы.

Па словах Ягора Роўды, дзяўчынку, якая 2 жніўня загінула ля вадасховішча ад паваленага дрэва, таксама забіралі выратавальнікі.

Ніякі транспарт не мог праехаць на месца трагедыі. Усё было завалена ад выратавальнай станцыі і амаль да кальцавой дарогі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вынеслі прысуд па справе ашмянскіх мытнікаў

АШМЯНЫ

У Мінскім абласным судзе 8 жніўня абвясцілі прысуд групе ашмянскіх мытнікаў.

16 фігурантаў абвінавацілі ў атрыманні хабараў на 852 тысячы долараў.

Самае суровае пакаранне атрымаў былы мытнік, а пасля бізнесмен **Гарнік Сарумянц** – 11,6 гадоў узмоцненага рэжыму. У яго канфіскуюць 1,8 мільёна долараў, знойдзеныя пад ваннай у кватэры, Tut.by.

**Аляксандр Гаральскі**, экс-начальнік "Каменнага Логу", атрымаў шэсць гадоў пазбаўлення волі. **Віктар Фалевіч**, экс-начальнік пунктаў "Каменны Лог", "Гудагай" і "Катлоўка" – 7,7 года.

Былы начальнік пункта мытнага афармлення "Каменны Лог" **Ігар Высоцкі** – 8 гадоў. Мытнікаў **Лапшэвіча, Горбаль, Карповіча, Ермалаева** прысудзілі да 6 гадоў, **Башлыкевіча** – да 7,6 года, **Попчанку** – да пяці гадоў. Шмат у каго канфіскуюць ааўтамабілі і грошы.

**Юрый Кавальчук** і **Ігар Бубноў**, асуджаныя на пяць і шэсць гадоў адпаведна, віну не прызналі.

Адзіную абвінавачаную жанчыну **Мароз** прысудзілі да шасці гадоў пазбаўлення волі.

Літоўскаму бізнесмену **Тураеву** далі штраф 46 тысяч рублёў і адпусцілі на волю.

Беларускі бізнесмэн **Рэвака** з Астраўца прысуджаны да хатняй хіміі.

Дзяржабвінаваўца адразу запатрабаваў для фігурантаў да 12,5 гадоў пазбаўлення волі. Выслухаўшы пракурора, за лічаныя дні некаторыя абвінавачаныя знайшлі грошы і пагасілі ўрон.

Адвакаты папрасілі далучыць квітанцыі да матэрыялаў крымінальнай справы і ўлічыць гэта пры вынясенні пакарання. І пракурор улічыў. Ён запатрабаваў новае пакаранне, "прыбраўшы" па некалькі гадоў для тых, хто раскаяўся і заплаціў.

Нагадаем, што па справе ашмянскіх мытнікаў у Мінскім абласным судзе пачаўся ў лістападзе 2016 года. На лаве падсудных амаль уся вярхушка мытні, а таксама два бізнесмены – Тураеў з Вільні і Рэвака з Астраўца. Адных абвінавачаныя ў атрыманні хабару ў буйным памеры, другіх – у даванні.

**Паводле Tut.by.**

## Маладзечанская міліцыя спрыяе збожжаўборачнай кампаніі

МАЛАДЗЕЧНА

За мінулы перыяд 2017 года ўзбудзілі тры крымінальныя справы за злачынствы, учыненыя на аб ектах аграпрамысловых комплексаў раёна. Летась такіх злачынстваў не было.

Так, вясной невядомы скраў з гаспадаркі ў Заскавічах два акумулятары з пагрузчыка. А ў аграфірме "Лебедзева" скралі чорны метал.

Маладзечанскі РАУС нагадвае пра адказнасць за правапарушэнні.

Штраф ад 230 да 690 рублёў і адміністрацыйны арышт чакае правапарушальніка за дробны крадзеж, злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, прысвечванне маёмасці.

Калі падобныя правапарушэнні грамадзянін учыніць паўторна на працягу года, штраф узрасце да 690 да 1 150 рублёў.

Дробным лічаць крадзеж маёмасці, кошт якой не перавышае 230 рублёў. Выключэннем з'яўляецца крадзеж ордэна, медаля, нагруднага знака, або групавы крадзеж, крадзеж з пранікненнем у жытло.

За крадзеж могуць пакараць грамадскімі работамі, штрафам, выпраўленчымі работамі да двух гадоў, арыштам ад трох да шасці месяцаў, абмежаваннем або пазбаўленнем волі да чатырох гадоў.

Крадзеж, учынены паўторна, групай або з пранікненнем у жытло, караюць выпраўленчымі работамі да двух гадоў, арыштам ад трох да шасці месяцаў, абмежаваннем або пазбаўленнем волі на чатыры гады.

За крадзеж у буйным памеры пазбаўляюць волі на тэрмін ад адвух да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без яе.

Крадзеж, здзейснены арганізаванай групай або ў асабліва буйным памеры, караюць пазбаўленнем волі ад трох да дванаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Калі вам што-небудзь вядома пра злачынства або вы сталі яго сведкам, Маладзечанскі РАУС просіць паведаміць пра гэта па тэлефонах **102, 8(0176) 771656** (кругласутачна), **771488, 774411** ( у працоўныя дні ад 9:00 да 18:00).

**Валянцін АСІПОВІЧ,**
**начальнік Маладзечанскага РАУС.**

## Заядлы грыбнік дзеліцца досведам

МАЛАДЗЕЧНА

Аднойчы мае знаёмыя на камп'ютары адкрылі карту вёсак Дубравы, Навасёлкі-1. І былі вельмі здзіўленыя. Лясоў там зусім мала, пераважна вакол палеткі. Толькі ў паўднёвым накірунку, дзе вёска Татарскія, цягнулася вузкая палоска лесу, быццам раздзяляльная паласа паміж Валожынскім і Маладзечанскім раёнамі. А я заўсёды шмат збіраю грыбоў. Дзе ж іх знаходжу?

Я пацвердзіў, што ў нас пералескі, бярэзнікі. Вось тут і збіраю грыбы. Адзінае, трэба ведаць месцы. Нейкія паказалі родныя, суседзі, сябры. На большасць выйшаў сам. Некалі, у далёкім дзяцінстве, мой старэйшы сябар пад настрой паказаў баравіковыя мясціны ў бары, што каля Навасёлак. Цяпер там грыбы пераваліся, можа таму, што непадалёк размешчаныя летнікі. А тады я так быў удзячны яму.

Праз некалькі гадоў я выбраўся ў грыбы, удалечыні бачу спіну сябра каля лесу. Пачынаю яго клікаць, ён ніяк не рэагуе, быццам не чуе. Калі я нарэшце даходжу да таго лесу, дзе ён толькі што быў, яго ўжо і след прастыў. Пасля ўцяміў, што ён не хоча маёй кампаніі, бо ведаў, што я ўжо да гэтага часу нядрэнна арыентаваўся ў грыбных мясцінах і стаў яму канкурэнтам. Так што збор грыбоў – гэта яшчэ свайго роду і спаборніцтва.

А каб ціхае паляванне ўдалося, трэба мець вялікую ахвоту. Паход у грыбы патрабуе шмат сіл і часу. Тут і пайсці раней за іншых трэба, яшчэ з расой – лайдакі грыбоў не назбіраюць. І мець адчуванне, дзе могуць яны расці.

У лесе прытрымліваюся няпісаных правілаў. Калі бачу, што грыбное месца занятае, стараюся яго абыходзіць і шукаць іншае. Нельга тут быць навязлівым з незнаёмымі. Лес усё ж. Так, перакінуцца добрым словам, гэта пажадана.

Важна яшчэ не прапусціць і пачатак іх збору, таму часам на чыгуначным прыпынку, калі еду на працу, у электрычцы прыслухоўваюся да размоў пра грыбы. А калегі, ведаючы маё захапленне і тое, што я даю праўдзівыя звесткі, лічаць мае адказы індыкатарам для дзеянняў на наступныя выхадныя.

З маленства бацькі прывучалі, што знойдзены грыб трэба зразаць ножыкам і ні ў якім разе не вырываць, каб не пашкодзіць грыбніцу. А то ёсць у мяне адзін знаёмы, вельмі паважаны чалавек, выкладае ва ўніверсітэце. Дык вось ён не то выкручвае, не то вырывае з коранем. І яшчэ мне даказвае, што менавіта так трэба рабіць. А пасля са здзіўленнем гаварыў, што ходзіць па тых месцах, а грыба ніводнага не знаходзіць.

Калі я жыў у Гродне, там здарыўся няшчасны выпадак – атруцілася грыбамі і памерла жанчына, доктар біялагічных навук, якраз спецыяліст у гэтай галіне. Можа, хіба, эксперыментавала на сабе.

Таму, калі вы няўпэўненыя, што гэта за грыбы, лепш не бярыце. Агульнавядома, што небяспеку нясуць грыбы, сабраныя на ўскрайку лесу, дзе яны любяць расці. Але ж гэтыя месцы могуць быць апрацаваныя хімікатамі.

Не збірайце грыбы бяздумна. Узяў і пайшоў у любы лес. Аналізуйце, якіх грыбоў у дадзены момант больш, і выбірайце адпаведныя месцы збору. Бо ў адных растуць адны грыбы, а ў іншых яны ўжо не сустракаюцца. Улічвайце, засушлівая стаіць пара ці дажджлівая. Адпаведна і грыбы будуць расці бліжэй да ўскрайку лесу ці палезуць углыб. Грыбы таксама не любяць як затопленыя месцы, так і глухія.

Аднойчы каля вёскі Еленка я знайшоў каля паўсотні маладых падасінавікаў на адным месцы. Уся паляна была ўсыпаная чырвонымі галоўкамі. Вось гэта было дзіва. А неяк, пераходзячы невялікую рачулку, прыток Заходняй Бярэзіны, наткнуўся на падасінавікі, што раслі прама на лузе, каля дзясятка. А вакол і лесу не было, толькі адзінокая асіна.

Логіку, дзе і як развіваецца грыбніца, зразумець даволі цяжка. Некалі наша мама нам, дзецям, казала, каб не выкідалі грыбныя адходы ў смецце, а раскідвалі вакол пасаджаных дрэў. І што вы думаеце?! Праз некалькі гадоў грыбы там выраслі. А вось з'яўленне рыжыкаў каля пасаджаных елак было проста цудам. Праўда, перад гэтым побач была пасеяная і расла канюшына. Як толькі поле ўзаралі і апрацавалі хімікатамі, рыжыкі паступова зніклі.

Гэты год пакуль што не вельмі багаты на дары лесу. Я збор грыбоў пачаў з пачатку чэрвеня. Поспехам было тое, што ні адзін паход не быў пусты. Бывала, хапала толькі на суп, а бывала, што яшчэ і падсмажыць можна было. А калі грыбы прыеліся, то тады пайшлі на сушку. Вось ужо і насушыў на зіму некалькі кілаграмаў. Сёлета пераважна сустракаюцца падасінавікі, чашчавікі, лісічкі, маслякі. Баравікоў зусім мала.

А вось восеньскія грыбы не збіраю, бо не ўмеем так, як некалі бабуля, марынаваць іх і саліць. Канешне, гэтаму можна навучыцца, але...

**Іосіф ПАЎКАЛАС, вёска Навасёлкі-1 Маладзечанскага раёна.**

# "Першая прычына – гэта ты". Або чаму сварацца муж і жонка

МАЛАДЗЕЧНА

**Псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Анжэла Клінцэвіч дае парады, як перастаць сварыцца.**



Леў Талстой не дарма гаварыў, што ўсе шчаслівыя сем'і падобныя адна на адну. У такіх сем'ях не бывае канфліктаў, а тым больш рукапрыкладства. Усе праблемы абгаворваюцца ў спакойным русле. І гэта – адзін з галоўных інгрыдыентаў стварэння шчаслівай сям'і.

Першыя пяць інгрыдыентаў – гэта прасцейшыя правілы узаемнай павагі: уменне слухаць адзін аднаго і не перабіваць, не вешаць "ярлыкі" на партнёра, выконваць абяцанні, не параўноўваць свайго мужа або жонку з іншымі.

Любую крытыку ў адрас партнёра кампенсуйце пяццю кампліментамі.

Аднак пры ўсім гэтым у любых адносінах часам наступае "зіма". Псіхолагі вызначылі асноўныя прычыны таго, з-за чаго сварацца муж і жонка.

***Прычына № 1:*** расчараванне спасцігае ад таго, калі разумееш, што эйфарыя закахання прайшла, а за каханне яшчэ трэба пазмагацца. Каб пачуццё не згасла, у яго трэба ўкладаць час, здароўе, грошы, сэрца, увагу, пяшчоту, пачуцці.

***Прычына №2 :*** пытанне лідарства ў пары. Калі закаханыя шчаслівыя, яны ўступаюць адзін аднаму, ім няма чаго дзяліць і "надзімаць шчокі". Кожны – галоўны ў чымсьці сваім, ён незамянімы і непаўторны.

***Прычына № 3:*** не апошняе месца ў сямейных канфліктах займае і празаічнае пытанне сямейнага бюджэту. Рэгуляванне даходаў і выдаткаў у сям'і з'яўляецца таксама індыкатарам адносін.

***Прычына № 4:*** невыкананне маральных прынцыпаў. Пары даволі часта сварацца праз шлюбную нявернасць. Здрада – заўсёды прычына скандала ці нават разрыву.

***Прычына № 5:*** у двух людзей, якія любяць адзін аднаго, можа ўзнікнуць канфлікт у стане стрэсу з-за таго, што пара мае розныя патрабаванні і адносіны да жыцця. Кар'еры рост і поспехі ў прафесіі зусім не гарантуюць шчасця ў асабістым жыцці. Часцей бывае наадварот: хуткае прасоўванне па службовай лесвіцы аддаляе закаханых адзін ад аднаго.

***Прычына № 6:*** марныя чаканні. Крыўда і раздражненне прыходзяць тады, калі партнёр не выконвае таго, што ад яго чакаюць, або тое, што абяцаў зрабіць. Вядома, ад гэтага з'яўляюцца прэтэнзіі, якія выказваюцца ў папроках. І часцей за ўсё, такія папрокі пераходзяць у крык, абразу і поўнае непаразуменне.

***Прычына № 7:*** абразы і крыўды. Заўсёды трэба памятаць, што ў адносінах ніколі не будзе так, як хочацца толькі вам. Таму, нават пры сварках трэба тлумачыць, што вас пакрыўдзіла і абразіла. І калі мірыцеся, то галоўнае зразумець з-за чаго адбылася сварка і больш гэтага ў адносінах не дапускаць.

І ўсё ж не забывайце, што самыя важныя якасці, якія служаць выдатнай прафілактыкай сямейных скандалаў – узаемная павага і настрой на канструктыўнае выйсце з любых сітуацый. Калі вам патрэбна парада спецыяліста, псіхалагічная дапамога, можна смела звяртацца ў Маладзечанскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, па адрасе: Маладзечна, вул.Таўлая, дом 4 ці запісацца на кансультацыю па тэлефоне: (80176) **74-66-20**, які з'яўляецца таксама нумарам тэлефона даверу.

**Анжэла КЛІНЦЭВІЧ, псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва**

## У Вілейцы 19 жніўня зладзяць школьны фрымаркет

ВІЛЕЙКА

19 жніўня ў Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі ў Вілейцы зладзяць фрымаркет для падрыхтоўкі дзяцей у школу.

Арганізатары праводзяць фрымаркет ужо ў трэці раз. Пра бясплатны кірмаш, які адбыўся вясной, "Рэгіянальная газета" пісала.

Тады арганізатары дапамаглі некалькім вілейскім сем'ям, якія гадуюць дзяцей розных узростаў. Другі фрымаркет прайшоў больш актыўна, чым першы.

Па словах **Ірыны Трубач**, шматдзетнай мамы, якая з'яўляецца адным з арганізатараў фрымаркету, перад навучальным годам хочуць сабраць больш школьных рэчаў.

Прыносіць рэчы можна ад сённяшняга дня і да 18 жніўня ў фае Цэнтра на адрас вуліца Савецкая, 54. Тут рэчы, спакаваныя ў пакеты, можна будзе пакінуць у спецыяльнай скрыні.

На словах Ірыны Трубач, прыносіць можна непатрэбныя школьныя сарафаны, касцюмы, заплечнікі, кашулі. Рэчы павінны быць у добрым стане.

Фрымаркет пачнецца 19 жніўня ў 12:00 і працягнецца тры гадзіны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Адкрываюць паляванне на вадаплаўных і балотных птушак

Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету інфармуе, што **ад 12 жніўня 2017** года пачынаецца паляванне на вадаплаўную і балотную дзічыну, акрамя гусей.

Таксама дазволяць паляваць на слонку, вехіра, шызага голуба, перапёлку і фазана.

Паляваць можна ў светлы час сутак з дапамогай ружжа з засады, з падыходу, з пад'езда з маламерных судоў без рухавіка або з непрацуючым рухавіком.

Дазваляюць карыстацца гладкаствольнай паляўнічай зброяй з патронамі, забяспечанымі шротам. Можна далучаць паляўнічых сабак, акрамя ганчакоў і хартоў.

Акрамя таго, ад 12 жніўня пачынаецца паляванне на цецярука. Дазволена здабываць асобін любога полу і ўзросту, акрамя самак з вывадкам маладых птушак. Паляванне ажыццяўляецца толькі з падыходу з паляўнічымі сабакамі.

З адным сабакам могуць паляваць да трох паляўнічых. Пры гэтым у паляўнічай пуцёўцы, у графе "Асаблівыя ўмовы" ўказваюць пароду, мянушку, нумар і іншыя дадзеныя з рэгістрацыйнай карткі сабакі.

Дазвол на паляванне працягнецца да 10 снежня 2017 года.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ, старшы дзяржінспектар маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Зафіра А рэстайлінг, 2.0 дызель, 2004 года. Т. (8-029) 1249091.*

• Рэно-Эспайс, 1994 г.в., 2,0 бензін., сіне-зялёны. Т. Лайф (8-025) 9009398.*

• ФВ Гольф, 2011 г.в., 1,9 л, белы. Т. МТС (8-033) 6601433, (8-0176) 544060.*

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Камплект летняй гумы на літых дысках для Пежо 405 R14. Т. (8-029) 5037346.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Т.(8-029) 5677052.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

• Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Валожыне. Т. (8-029) 1237382.

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы.Т. МТС (8-029) 8181648, (8-033) 3275440.

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-01771)32193, (8-033) 6029250.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-029) 3443740*.

• 3-пакаёвая кватэра ў Валожыне. Т. Вэлком (8-029) 1478232.*

• Дача ў Вілейскім р-не, вёска Прынта. Т. (8-029) 9074111.

• Дом альбо паўдома з падвалам, зямлёй, хлевам у Ашмянах, нядорага. Падрабязнасці па тэл. (8-033) 3933486.

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, водаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*

• Дом на Вілейскім вадасховішчы ў в. Чыжэвічы, 27 000 рублёў. Т. (8-029) 7708512, (8-029) 2731471.*

• Дом у в. Гайголі. Т. Вэлком (8-044) 4553402.*

• Дом у в. Папоўцы Вілейскага раёна Мінскай вобласці, 20 сотак, гаспадарчыя пабудовы, лазня. Т. (8-029) 8587518, (8-01771) 55349.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом цагляны ў в. Куранец Вілейскага раёна, больш за 100 м2, зямельны ўчастак – 40 га, 9000 рублёў. Т. МТС (8-029) 5609398, 98029) 5609402.*

• Участак з домам у в. Гараватка, 15 сотак, крайні, зруб. Цана 16575 руб. Т. (8-029) 3221494.*



**16.08.2017 года с 10.00 до 12.00**
начальник Молодечненского филиала РУП "Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру"
**БОРИСЕНКО Вадимир Васильевич**
проводит «ПРЯМУЮ ЛИНИЮ»
по тел. (8-0176) **58-07-25** УНП 600199462

• Участак 15 сотак, в. Раеўшчына, Маладзечанскі р-н, электрычнасць, газ побач. 21 тыс. руб. Т. (8-033) 6666466, (8-044) 7006666.*

• Участак зямлі з падмуркам паблізу з вадаёмам у в. Сосенка і в. Белавароціца. Т. (8-029) 5533411.

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру ў Гомелі на 1-пакаёвую альбо дом у Маладзечне. Т. (8-029) 9168299, (8-044) 7031972.*

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-044) 7182552.*

• Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*



# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.
Т. (8-029) **651 20 36**.

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Саппашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-Бэнц-Спрынтар да 2-х тон (4,2Ч1,6Ч1,75) горад, РБ, РФ. ІП Навойчык О.В. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*





• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Маціп А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў любой складанасці. ПУП "Рункомп" УНП 6902552869. Т. МТС (8-033) 3788997, (8-029) 3788997.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*

• Усе віды зварачных работ. Т. ІП Кумпяк І.М. УНП 691182247.(8-029) 5676481.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• **ВАГОНКА** (сасна, вольха), імітацыя бруса, **ПІЛАМАТЭРЫЯЛЫ** і інш. Маладзечна, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла, віцебскі пячны цэх №1, цэгла шамотная. Т. (8-044) 7557072, (8-029) 8351640.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.

• Трактар МТЗ-50 у выдатным стане, з дакументамі. Поўны капрамонт у 2016 годзе. Т. (8-029) 6342851.*

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

• Трактар самаробны. Т. (8-029) 6237550.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік "Атлант" у выдатным стане, б/у. Тэлефанаваць на нумар (8-044) 4985602.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ -5% в июне (8029) 762-78-98, 332-67-79. ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце Rh.by

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Лідэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Музінструмент**

• Акардэон ¾, 600 руб. Т. (8-029) 5475524.*

**Іншае**

• Бараніна жывой вагой – 4,5 руб, мясам – 8,5 руб. Т. (8-029) 6769359 Віталь.

• Вуллі новыя, танна. Т. (8-029) 9950326, (80176) 532543.*

• Каза добрая. Т. (8-029) 9375504, (8-033) 3144134, (8-01771) 34032.

### КУПЛЮ

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• Антыкварыят, статуэткі, гадзіннікі, грамафоны, карціны, мэблю і іншыя старажытныя рэчы. Т. МТС (8-033) 9030854, Вэлком (8-029) 1447482.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 8789740.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЮЦЦА

• Кіроўцы-міжнароднікі кат. "Е", з досведам працы, узрост да 45 гадоў. ТАА "СкараходТранс" УНП 591800134. Т. (8-044) 7607256, (8-029) 6216445.

НАВІНЫ

## 12 жніўня зладзяць "прамую лінію" з Таццянай Цітуленкай

**ВІЛЕЙКА**

12 жніўня правядуць "прамую лінію" з намеснікам старшыні раённага Савета дэпутатаў Вілейкі **Таццянай Цітуленкай.**

Пытанні можна задаваць ад 9:00 да 12:00 па тэлефоне **8(01771) 5-57-47**.

Пра гэта распавялі ў вілейскім раённым Савеце дэпутатаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Навукоўцы даследуюць вадаёмы Мядзельшчыны

**МЯДЗЕЛ**

Сумесна з гідраэколагамі і возеразнаўцамі БДУ супрацоўнікі нацыянальнага парку "Нарачанскі" даследуюць ваду ў азёрах Мядзельшчыны, уздзеенне на яе стан надводных і падводных раслін. Звяртаюць увагу таксама на якасць вады ў возеры.

У цэнтры ўвагі навукоўцаў – Мядзельская і Нарачанская групы азёр.

Як нам распавялі ў парку "Нарачанскі", унікальныя азёры Мядзельшчыны здаўна вабяць навукоўцаў. Пастаянныя даследаванні і назіранні на базе Нарачанскай біялагічнай станцыі праводзяць ад 1947 года.

**Аддзел інфармацыі.**

## З чым звярталіся грамадзяне да старшыні райвыканкама ў Валожыне

**ВАЛОЖЫН**

Выязны прыём грамадзян правёў старшыня раённага выканаўчага камітэта **Мікалай Астрэйка** на валожынскім прадпрыемстве "Райаграпрамтэхніка", распавялі ў валожынскім райвыканкаме.

Аднак магчымасцю агучыць свае праблемы скарысталіся толькі два чалавекі.

Жыхарка мікрараёна Сельгастэхніка звярнулася адразу з некалькімі пытаннямі. Найперш, жанчыну хвалюючь недахопы водаадвода на доме № 45 па вуліцы Чапаева. Ападкі з даху разбураюць бетонныя падмосткі.

Старшыня даручыў тэрмінова вырашыць гэту праблему прадстаўнікам РУП "Валожынскі жылкамунгас", якія ў той жа дзень адпраўліся выконваць фронт работ.

Другая просьба – паспрыяць наладжванню дадатковага рэйсу гарадского маршрутнага транспарту па выхадных днях. Гэтае пытанне таксама будуць абмяркоўваць.

Другая наведвальніца – супрацоўніца арганізацыі, дзе праходзіў выязны прыём грамадзян, – працуе па зменах. Праца часам заканчваецца апоўначы і пазней, таму яна занепакоеная праблемай асвятлення вуліцы Леніна, дзе жыве.

У той час, калі яна ідзе дадому, ліхтары ўжо не гараць, а тратуараў там няма, ды і саму дарогу шырокай не назавеш.

Старшыня райвыканкама даў заданне жыллёва-камунальнай службе перагледзець графікі ўключэння вулічнага асвятлення, а кіраўніцтву ААТ "Валожынская райаграпрамтэхніка" арганізаваць работу па падвозе работнікаў калектыву такім чынам, каб транспарт прыпыняўся недалёка ад іх дамоў.

## У смаргонскай бібліятэцы прыгадалі Янку Брыля

**СМАРГОНЬ**

4 жніўня ў смаргонскай гарадской бібліятэцы №3 зладзілі літаратурную гадзіну "Лёс. Творчасць. Памяць".

Бібліятэкары прысвяцілі яе 100-годдзю з дня нараджэння пісьменніка **Янкі Брыля.** На мерапрыемства запрасілі чытачоў бібліятэкі.

Бібліятэкары расказалі пра творчы і жыццёвы шлях народнага пісьменніка Беларусі, прачыталі ўрыўкі з яго твораў.

Прысутныя ўдзельнічалі ў літаратурнай віктарыне "Асколачак Вясёлкі". Падзяліўшыся на каманду хлопчыкаў і каманду дзяўчынак, разгадвалі крыжаванку пад назвай "Адгадай, ды не памыліся".

Да мерапрыемства бібліятэкары падрыхтавалі выставу кніг "Янка Брыль. Сцежкі, дарогі, прастор...".

Пра гэта распавялі ў смаргонскай раённай бібліятэцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Астраўцы правялі інтэлектуальны турзлёт

**АСТРАВЕЦ**

На беразе Віліі, недалёка ад вёскі Альхоўка, што на Астравеччыне, упершыню зладзілі інтэлектуальны турзлёт "Ін-Турыст".

Прыехалі не ўсе заяўленыя каманды. Аднак, па словах удзельнаў, турнір на свежым паветры прайшоў відовішна і непрадказальна.

Акрамя інтэлектуальных дадзеных, удзельнікі прадэманстравалі спартыўныя здольнасці і крэатыўнасць.

**Паводле "Астравецкай праўды".**



## Чыгунка запусціла продаж квіткоў з дынамічным фарміраваннем кошту

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пры такой сістэме кошт квітка залежыць ад таго, калі ён быў набыты, і наколькі быў запоўнены вагон на той момант.

Прасцей кажучы, чым раней збярэшся купіць квіткі, і чым менш іх будзе прададзена на гэты момант, тым танней заплаціш. Да прыкладу, калі купляеш білет за 45 сутак да адпраўлення цягніка, а вагон яшчэ практычна пусты – білет будзе каштаваць у 2 разы менш. Па меры напаўнення вагона кошт праязнога дакумента будзе паступова павялічвацца.

Пакуль новаўвядзенне дзейнічае толькі пры куплі білетаў на цягнік № 87/88 Мінск – Рыга (які праходзіць і спыняецца ў Маладзечне) ў абодвух напрамках з датай адпраўлення ад 1 верасня.

Паводле інфармацыі прэс-цэнтра беларускай чыгункі, за тыдзень выкарыстання новай сістэмы па кірунку Мінск - Рыга было прададзена ў 2,5 разы больш білетаў, чым за аналагічны перыяд мінулага года

**Аддзел інфармацыі**

# Якія новаўвядзенні чакаюць сямей з дзецьмі

## Даплаты па цяжарнасці, новыя катэгорыі сям'ей, што маюць права на дапамогу дзяцей, старэйшых за 3 гады


Фота uaua.info

Цяпер памер дапамогі на дзяцей да трох гадоў будуць пералічваць два разы на год.

**1 ліпеня ўнеслі змены ў закон "Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей".**

**Якія змены прапісаныя ў законе:**

1. Уведзеная даплата да дапамогі па цяжарнасці асобным катэгорыям жанчын (напрыклад, студэнткам; маладым спецыялістам, у якіх няма 6-месячнага стажу аплаты страхавых унёскаў). Жанчыны атрымліваюць дапамогу ў мінімальным памеры, пры дапамозе даплаты ім кампенсуюць недаатрыманы памер дапамогі па догляду за дзіцем да трох гадоў.
2. Асобы, якія праходзяць падрыхтоўку ў клінічнай ардынатуры на вочнай форме за ўласныя сродкі, атрымліваюць дапамогу па догляду за дзіцем да трох гадоў ў поўным памеры.
3. Сума дапамогі за ўвесь перыяд бальнічнага (дародавы і пасляродавы перыяды) будуць роўныя суме дапамогі па догляду за дзіцем да трох гадоў, разлічаны ад даты нараджэння дзіцяці па дзень, па які выплачана дапамога па цяжарнасці і родах. Калі агульная сума дапамогі па цяжарнасці і родах ніжэй сумы дапамогі па догляду за дзіцем да трох гадоў, то пасля заканчэння перыяду знаходжання жанчыны на бальнічным ёй даплацяць розніцу.
4. Жанчыны, якія сталі на ўлік да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці ў дзяржаўных арганізацыях аховы здароўя і іншых, атрымліваюць адзінаразовую дапамогу.
5. Павялічылі тэрмін для звароту за прызначэннем дапамогі ў сувязі з нараджэннем дзіцяці для усынавіцеляў і апекуноў, пры ўсынаўленні, устанаўленні апекі над дзіцем ва ўзросце да 6 месяцаў (устаноўлены для падачы заявы 6-месячны тэрмін будзе вылічацца не са дня нараджэння дзіцяці, а з дня ўсынаўлення, устанаўлення апекі).
6. Індывідуальныя прадпрымальнікі і іншыя асобы, якія самастойна выплачваюць абавязковыя страхавыя ўнёскі, калі яны знаходзяцца ў працэсе спынення прадпрымальніцкай дзейнасці альбо прыпынілі яе па прыгаворы суда, або ў сувязі з прыпыненнем ліцэнзіі на ажыццяўленне дзейнасці атрымліваюць дапамогу на дзяцей да трох гадоў у поўным памеры.
7. Прадстаўлена права на дапамогу да трох гадоў іншым сваякам дзіцяці (якія не з'яўляюцца бацькамі), калі яны былі індывідуальнымі прадпрымальнікамі, натарыусамі, адвакатамі, рамеснікамі, асобамі, якія ажыццяўляюць дзейнасць у сферы аграэкатурызму, прыпынілі сваю дзейнасць у сувязі з доглядам дзіцяці да трох гадоў. Раней гэтыя асобы мелі права на догляд дзяцей да трох гадоў, калі яны знаходзіліся ў працоўных адносінах і афармілі адпачынак па доглядзе дзіцяці да трох гадоў.
8. Уведзена норма, што калі маці з'яўляецца непаўналетняй і на яе саму прызначаная дапамога, то ў выпадку нараджэння ёй дзіця без рэгістрацыі шлюбу, выплата дапамогі на яе працягваецца.
9. Уведзена новая катэгорыя сямей, якія маюць права на дапамогу на дзяцей старэйшых за 3 гады, у якіх бацька (айчым) праходзіць альтэрнатыўную службу.

### Дадатковыя ўмовы для прызначэння дапамогі ў сувязі з нараджэннем дзіцяці:

для замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія часова жывуць у Беларусі, перыяд выплаты абавязковых страхавых унёскаў на сацыяльнае страхаванне павінен складаць не менш за шэсць месяцаў;

для грамадзян Беларусі, калі дзіця нарадзілася за мяжой, абавязковай умовай з'яўляецца пражыванне аднаго з бацькоў у краіне не менш за шэсць месяцаў.

Цяпер памер дапамогі на дзяцей да трох гадоў будуць пералічваць два разы на год – ад 1 лютага і ад 1 жніўня, замест чатырох. У выпадку змяншэння сярэднямесячнага заробку работнікаў па краіне, з якой налічваецца дапамога на дзяцей да трох гадоў, памеры дапамогі застануцца ранейшымі.

### Дапамогі на дзяцей-інвалідаў

1. Бацькам, якія выхоўваюць дзіця-інваліда і атрымліваюць дапамогу па догляду за дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 18 гадоў, дазволена працаваць на 0,5 стаўкі альбо выконваць працу на даму.
2. Бацькі дзіця-інваліда будуць мець права на дапамогу па догляду за дзіцем-інвалідам і ў выпадку атрымання імі пенсіі альбо штомесячнай страхавой выплаты ад Белдзяржстраху. Цяпер такое права маюць толькі бацькі з інваліднасцю.
3. Павышаны памер дапамогі па догляду за дзіцем-інвалідам да 120% БПМ для асоб, якія ажыццяўляюць догляд за дзіцем-інвалідам ва ўзросце ад 3 да 18 гадоў з III або IV ступенню страты здароўя.
4. Унесеныя змены для сямей, якія выхоўваюць дзіця да трох гадоў, а бацькі з'яўляюцца інвалідамі I або II групы або адзін з бацькоў з'яўляецца інвалідам I групы, а другі даглядае за ім і атрымлівае дапамогу па догляду. Законам прадастаўлена такім сем'ям права на дапамогі на дзяцей старэйшых за 3 гады з асобных катэгорый сем'яў да дасягнення дзецьмі ўзросту 18 гадоў без якіх-небудзь умоў да іх навучання, г.зн. яны змогуць атрымліваць дапамогу на дзяцей, якія навучаюцца на бюджэтнай аснове, на завочнай (дыстанцыйнай) або вячэрняй форме навучання, і на дзяцей, якія не працягваюць навучанне пасля школы.

Прадстаўлена права бацькам (усынавіцелям, апекунам, папячыцелям) дзіцяці-інваліда на атрыманне дапамогі па часовай непрацаздольнасці па доглядзе дзіцяці-інваліда на перыяд яго санаторна-курортнага лячэння, медыцынскай рэабілітацыі, у тых выпадках, калі атрымальнікам дапамогі па догляду за ребенком- інвалідам да 18 гадоў з'яўляецца іншая асоба або другі з бацькоў, якія не маюць магчымасці ажыццяўляць догляд дзіцяці-інваліда ў гэты перыяд па аб'ектыўных прычынах (у цяперашні час права на гэты від дапамогі м прадастаўляецца, пры ўмове адмовы іншых асоб ад атрымання дапамогі па догляду за дзіцем інвалідам на перыяд яго санаторна-курортнага лячэння, медыцынскай рэабілітацыі).

Удакладнена права на атрыманне дзяржаўных дапамог пры знаходжанні дзяцей-інвалідаў у інтэрнатных установах у перыяд аказання ім паслугі сацыяльнай перадышкі (даецца такая паслуга да 28 каляндарных дзён у годзе).

Атрымальнікі дзяржаўных дапамог абавязаны паведамляць не пазней за пяць дзён пра надыход абставін, якія цягнуць за сабой спыненне выплаты дзяржаўных дапамог. Пры выкананні названага тэрміну выплата дапамог будзе спынена з наступнага месяца, пры парушэнні – з дня наступлення абставінаў.

Кансультацыю па пытаннях прызначэння і выплаты дзяржаўных дапамог можна атрымаць у Маладзечанскім аддзеле Мінскага абласнога кіравання Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва. Адрас: ***Маладзечна, Машэрава, 19***. Тэлефоны: **(80176) 74-63-15, 74-63-16, 74-63-17, 74-63-18, 74-63-19, 74-63-21, 74-63-24, 74-63-25.**

**Маладзечанскі раённы аддзел Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва.**

## У Смаргоні ўпершыню правядуць фэст у гонар абаранкаў

СМАРГОНЬ

**16 верасня ў Смаргоні ўпершыню зладзяць фестываль абаранкаў. Абаранкі – адзін з гістарычных брэндаў горада. Смаргонь лічыцца іх радзімай.**


Фота Kimpress.by

Як распавяді арганізатары, ужо вядомая праграма свята.

10:40 – тэатралізаванае шэсце ўдзельнікаў фестывалю-кірмашу па вуліцы Савецкай.

11:00 – урачыстае адкрыццё фестывалю-кірмашу на плошчы Леніна "А ў Смаргоні, як нідзе, фестываль-кірмаш ідзе".

10:00-20:00 – выстава-продаж вырабаў майстроў народнай творчасці, майстар-класы па розных відах дэкаратыўна-прыкладной творчасці ў гарадскім парку.

12:00-18:00 – дзіцячая пляцоўка "Смаргонскія баранкі – для малечы забаўлянкі" ў гарадскім парку.

10:00-20:00 – выстава-продаж хлебапякарных прадуктаў на вуліцы Савецкай.

12:00-20:00 – літаратурна-гістарычная пляцоўка "Часоў былых і новых сувязь" у гарадскім парку.

12:00-13:00 – конкурс гандлёвых павільёнаў на вуліцы Савецкай.

12:00-18.00 – спартыўныя гульні, катанне на конскіх павозках у гарадскім парку.

12:00-20:00 – фальклорная пляцоўка "На фестывалі-кірмашы весялімся ад душы" ў гарадскім парку.

12:00-20:00 – канцэртная пляцоўка "Смаргонь калядная" на вуліцы Савецкай.

13:00-14:00 – конкурс-дэгустацыя абаранкаў на вуліцы Савецкай.

15:00-16:30 – круглы стол "Захаванне і развіццё нацыянальных традыцый вытворчасці абаранкаў" у смаргонскім райвыканкаме.

18:00-19:00 – падвядзенне вынікаў конкурсаў, узнагароджанне пераможцаў на плошчы Леніна.

19:00-23:00 – эстрадны канцэрт.

23:00 – піратэхнічнае прадстаўленне.

**Аддзел інфармацыі.**

# Разьбяр з Купы распавёў пра скульптуру, арнамент і беларускасць

МЯДЗЕЛ

**Бацькі назвалі хлопчыка Юрасём. А як жа! Нарадзіўся ў красавіку 1961 года, калі паляцеў у космас Юры Гагарын.**

Але касманаўтам сын не стаў. Таму сёння на Мядзельшчыне працуе разьбяр па дрэве **Юрась Камандзірчык.**

Курортны пасёлак Нарач – не родная мясціна мастака. Сам ён са Спярыжжа, што на Брагіншчыне. На Мядзельшчыну з'ехалі з сям'ёй з Мазыра ў 1989 годзе.

– Падумалася: хай дзеткі гадуюцца на чыстым паветры, – кажа Юрась. – З 1990-ых мядзельская зямля прытуліла нас.

### Талент разьбяра – ад бацькі-рыбака

Бацька Юрася быў добрым рыбаком. З лазы, дубчыкаў плёў розныя рыбалоўныя прылады. Часам і нешта патрэбнае для гаспадаркі майстраваў. Магчыма, талент разбяра ў Юрася ад яго.

Упершыню працэс вырабу твораў з дрэва, а дакладней, на дрэве, будучы майстар пабачыў уВаронежы. Пасля заканчэння будаўнічага вучылішча ён тут працаваў.

Тады і пазнаёміўся з маладым хлопцам з Азербайджана **Ніфталі**. Ён вырабляў гравюры на фанеры.

Наступная сустрэча з мастацтвам была ў войску. Тут саслужывец **Васіль Лявіцкі** са Львоўшчыны выразаў з дрэва розныя сувеніры: птушак, звяроў.

Пасля войска Юрась давучыўся ў будаўнічым тэхнікуме, але "душа хацела рэзаць", прыгадвае майстар. Таму і паступіў у кобрынскае мастацкае вучылішча на разьбяра па дрэве.

– Вучылішча было новае, – распавядае Юрась. – Наш выпуск быў трэцім.

Па словах майстра, там працавалі такія настаўнікі, якім без перабольшвання

было цікава ўкласці душу ў вучняў. Навучалі кампазіцыі, лепцы, жывапісу.

### Як разьбяра натхніў керамiст

Калі ўжо з сям'ёй Юрась жыў у Мазыры, пазнаёміўся з творчасцю керaміста **Мікалая Пушкара.** Кажа, вельмі захапіла яго творчая манера кераміста.

У кераміцы мастак перадаваў звыклыя сцэнкі з народнага жыцця. Я якраз тады шукаў свой шлях у разьбе, прыгадвае Юрась. Вось нешта падобнае і пачаў рабіць з дрэва ў натуральную велічыню. Сцэны з народнага жыцця заўсёды будуць цікавіць людзей, пераканаты творца.

Сюжэты будучых драўляных скульптурных кампазіцый Юрась малюе графічна. Але працэс праляпіць іх у пластыліне, уклaсці душу ў пластыку, прызнацца майстар.

Рэзаць можна па любым дрэве, расказаў мой субяседнік. Пытанне толькі для чаго патрэбная дадзеная скульптура і дзе яна будзе стаяць.

> **– Вось усе хваляць ліпу, – кажа Юрась. – Аднак ліпа добрая для вырабаў, якія будуць стаяць пад дахам, выкарыстоўвацца ў хаце, а не на паветры і дажджы. Тут ліпа хутка згніе.**

Сам майстар зараз працуе выключна з дубам. Аказваецца, дуб прапітаны хіцінам – спецыяльнымі прыроднымі валокнамі драўніны. Таму ад розых караедаў церпіць толькі верхні слой дрэва.

У той жа час, калі хочаш, каб драўляная скульптура стаяла доўга, варта паклапаціцца пра яе правільную ўстаноўку. Не трэба, каб твор сутыкаўся з зямлёй, лепш зрабіць падстаўку.

Свае вырабы Юрась апрацоўвае спецыяльнымі рэчывамі на васкавой аснове, каб лепш захоўваліся. Аднак калі ёсць магчымасць, лічыць не лішнім зрабіць паддашак, каб менш траплялі ападкі.

### Мядзельшчына прытуліла і раскрыла талент

Мядзельшчына – гэта зямля, якая не толькі прытуліла сям'ю Камандзірчыкаў, а ў поўнай меры раскрыла талент разьбяра. Адну з самых дарагіх сэрцу прац Юрась зрабіў тут.

Сюжэт навеены беларускімі народнымі казкамі. Адсюль і назва працы "Людзей слухай, а свой розум май". Твор так удала пайшоў, што пасля аўтар рабіў яшчэ дзве копіі.

На сюжэт скульптуры "Галіна" натхніў паэт, ураджэнец Мядзельшчыны **Максім Танк**, а менавіта яго паэма "Ля вогнішч начлежных", створаная на аснове нарачанскіх легенд.

Вядомыя беларускія героі Вялес і Купалінка вітаюць наведнікаў гатэля "Нарач". У дрэва іх увасобіў мой субяседнік.

Яшчэ працы Юрася Камандзірчыка стаяць у "Зубраняці", санаторыях "Жураначка" і "Белая Русь", парку "Нарачанскі". Знак "Мядзел" пры ўездзе ў горад – таксама яго праца. Некаторыя творы ёсць і ў Расіі.

Вось чаму мне ўяўлялася, што дом такога разьбяра павінны быць увесь застаўлены драўлянымі скульптурамі. Аднак тут Юрась вымушаны быў мяне расчараваць:

> **– А вы як журналіст дома сценгазету выпускаеце? – задаў лагічнае пытанне майстар.**

І растлумачыў, што разьба па дрэве – для яго афіцыйная праца, крыніца прыбытку. Але гэта зусім не значыць, што ёй майстар павінен займацца дома.

### Драўляная вышыванка? Лёгка!

Своеасаблівая візітоўка майстра – драўляныя ручнікі. Па словах Юрася, ручнік – назва вобразная. Бо драўляныя палотны і сапраўды падобныя да ручніка. Тым больш свае "ручнікі" майстар упрыгожвае "вышываным" арнаментам.

– Пераношу на дрэва тое, што вышывалі нашы бабулі, – кажа Юрась.

Арнамент абірае сур'ёзна. Чытае адпаведную літаратуру, ведае, што абазначае кожны сімвал у арнаменце на яго творах.

Вучняў у разьбяра пакуль няма. Каб мець вучняў, кажа Юрась, трэба стала працаваць на адным месцы. Праца ж майстра такая, што прыходзіцца ездзіць працаваць па розных мясцінах.

А на аб'ект вучняў з сабой не возьмеш.

Любы заказчык хоча бачыць майстра з досведам.




Фота забяспечанае Юрасём КАМАНДЗІРЧЫКАМ.

Юрась Камандзірчык падчас працы над скульптурай "Птушыны гай", якая зараз стаіць у "Зубраняці".




Фота забяспечанае Юрасём КАМАНДЗІРЧЫКАМ.

Знак "Мядзел"– таксама праца Юрася.

Праўда, на будучае ёсць думка ўзяць гурток у мясцовай школе мастацтваў.

### Да беларусчыны і не трэба было прыходзіць

Юрась – сябра Саюза майстроў, народны майстар Беларусі. А яшчэ выдатна размаўляе па-беларуску.

– Як Вы прыйшлі да беларусчыны? – пытаюся ў субяседніка.

– А мне і прыходзіць не трэба было, – кажа Юрась. – У вясковай школе на Брагіншчыне нас вучылі выключна па-беларуску. На роднай мове выкладалі ўсе прадметы: і фізіку, і геаметрыю. А яшчэ ў пэўны час сустрэўся з людзьмі, якія дапамаглі адказаць на пытанне "хто мы?".

Сустрэча гэтая адбылася на Вілейшчыне ў 1988 годзе. Тут Юрась працаваў ў Даўгінаве. Неяк ехаў на машыне ў Вілейку і ўбачыў, як пры дарозе каля скульптуры Маці-парадзіхі з высечаным немаўляткам на грудзях нешта капаюць невядомыя людзі.

Юрась падумаў: рабаўнікі. А аказалася – археолагі пад кіраўніцтвам **Эдварда Зайкоўскага**. Сустрэча і размовы з археолагамі шмат дала Юрасю для нацыянальнага самавызначэння.

А скульптуры той на Вілейшчыне ўжо няма. Па словах Юрася, яна зараз знаходзіцца ў нейкім сталічным музеі.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Вілейскі павет 1930-х – цэнтр аўтамабілізацыі

**"Вілейскі павет робіцца вядомым". Пад такім загалоўкам у газеце "Kurjer Wilenski" 30 ліпеня 1937 года, 80 гадоў таму, з'явілася публікацыя аб вандроўцы журналіста Пятра Лемеша ў Вілейскі павет.**

Што яго найбольш уразіла? Чытайце ў тэксце ніжэй.

1937 год пачаўся пад знакам Вілейскага павета. Дзе наперакор пану старосце Геншлю і пану дэпутату Камінскаму дэманстрацыйна ўхвалены выхад генерала Жалігоўскага з Сялянскай палаты? У Вілейцы. Дзе адбылося пасвячэнне школы імя генерала Домб-Бярнацкага з удзелам шматлікіх прадстаўнікоў улады, прэсы і грамадства? У Лоўцавічах Вілейскага павета. (Пасвячэнне школы магло б здавацца дробнай справай, але пра гэта, а не іншае пісалі газеты цягам некалькіх дзён).

### Чым слаўны Вілейскі павет

Праходзіць у прыгранічны, у занядбаным Будславе рэгіянальны кірмаш. З'язджаюцца людзі з усяго ваяводства, не, з усёй Польшчы нават. Дзе той Будслаў? Зразумела, у Вілейскім павеце. Дзе знаходзіцца наймацнейшы асяродак пляцення кошыкаў на паўночным усходзе Польшчы? У Вілейскім павеце. Дзе самая вялікая ферма пушных звяркоў? У Сэрвачы ў Вілейскім павеце. Дзе найлепшыя ўраджаі, дзе найбольш прыватных аўтамабіляў, дзе самыя энергічныя людзі ў грамадскіх справах? У Вілейскім павеце, у Вілейскім павеце, у Вілейскім павеце…

Пясчаны павет на бальшавіцкім паграніччы, адносна добра населены і даволі лясісты, пераважная большасць насельніцтва – праваслаўныя, а між тым іншыя паветы маглі б тут шмат з-за чаго чырванець і многаму навучыцца.

Дзе б можна было правесці адпачынак так, каб злучыць прыемнае з карысным, каб адпачыць і падгледзець цікавыя рэчы з вясковага жыцця? Толькі ў Вілейскім павеце!

### Як даехаць з Вільні

Еду туды праз два дні пасля ўпарадкавання апошніх спраў перад адпачынкам. Першая праблема, з якой сутыкнуўся, гэта справа камунікацыі. Да Маладзечна з Вільні 100 кіламетраў – як адно імгненне. Дзве гадзіны – і справа зробленая. Але што далей? Далей, калі хто едзе на Вілейку, Крывічы, Куранец, Будслаў, то ўсё ў парадку. Не дай бог аднак калі камусьці захочацца паехаць да мясцовасці пры граніцы ў Хаценчыцкай ці Ільянскай гмінах. Самая блізкая чыгуначная станцыя – Уша. Да той Ушы з Вільні даехаць увогуле непроста. Цягнік на маршруце Вільня – Алёхнавічы стаіць у Маладзечне дзве гадзіны з хвастом і ў адзін бок, і ў зваротны. І ўдзень, і ўначы.

Ні пара дня, ні пара года на гэта не ўплывае, так было на працягу шэрагу гадоў і так ёсць цяпер. Людзі ўжо да гэтага прызвычаіліся…

Хто, едучы з Вільні, хоча быць найхутчэй дома каля Хаценчыц ці Ілы і мае добрых коней – выходзіць у Маладзечне, едзе конікамі ўздоўж чыгункі 16 км. З Маладзечна да Ушы і пасля яшчэ 25 км дадому.

Заўсёды гэта атрымаецца хутчэй, чым чакаць у Маладзечне дзве з паловай гадзіны, перш чым цягнік зробіць ласку рушыць у далейшую дарогу, а пасля яшчэ валачыся 30 хвілін цягніком.

### "Паляўнічыя" з Краснага на пасажыраў

Здольнасць людзей прыстасоўвацца да ўмоў уражвае. У мястэчку Краснае каля Ушы знайшліся такія спецыялісты, якія палююць на тых, хто спазніўся на цягнік да Вільні. Прыедзе такі лох праз пяць хвілін пасля адыходу цягніка. Роспач! Але тут раптам чуе прапанову: – Панок, дык у мяне ж конік добры. Прашу сядаць, дагонім цягнік у Маладзечне!

Патаргаваліся і паехалі ўздоўж чыгункі "Кацярынінскім трактам". Дарога нічога сабе. Толькі старыя бярозы мільгаюць па баках. І танна, і прыемна. У Маладзечне цягнік чакае, яшчэ ёсць нават час завітаць на чарачку або на дзве ў буфет, каб адзначыць добрае заканчэнне непрыемнага спазнення на цягнік.

Ёсць у наваколлі такі чалавек, вядомы тым, што заўсёды і паўсюль спазняўся. Зразумела, што ніколі не ад'язджаў тым цягнікам, якім планаваў, а толькі наступным. І цяпер спазненні не адышлі ў мінулае. Заўжды запозненага неяк выратуе ў астатняе імгненне спрытны "дастаўца" з Краснага.

Педагогіка "арыгінальнага раскладу руху цягнікоў" на шляху Вільня – Алёхнавічы мае яшчэ і іншыя добрыя бакі, акрамя таго, што пазбавілі непрыемных наступстваў спазненняў. У гэтым краі гэта галоўны матыватар матарызацыі. Народ купляе машыны, матацыклы, матаровары, каб як найменш карыстацца чыгуначнымі паездкамі на адрэзку Маладзечна – Уша. Едуць з Ілы, Хаценчыцаў проста да Вілейкі ці Маладзечна на ўласных аўтамабілях, роварах.

### Матарызацыя зашкальвае

Ад 1928 года матарызацыя павялічылася на 1000%. Так-так. На тысячу працэнтаў! 10 гадоў таму навакольных коней страшыў сваёй машынай толькі мясцовы багацей пан Багдановіч з Абадоўцаў і часам пан староста ці ваявода.

Сёння тут спраўных 11 аўто, не лічыўшы розных разабраных калымаг, якіх можна знайсці пад паветкамі або ў вазоўнях некаторых зямян і з якіх яны спадзяюцца пасля грунтоўнага рамонту змайстраваць нешта накшталт аўтамабіля. Азначае гэта небывалае, як на нашы ўмовы, імкненне да матарызацыі. Кожны гэта абавязаны прызнаць.

Размовы наконт выязных коней сціхлі. Калі сёлета адна пара выехала жвавым конікам да суседзяў лясной пакручастай дарогай, і той конік па дарозе згубіў гаспадароў, а пасля раструшчыў брычку аб прыдарожнае дрэва і вярнуўся дадому ў пене і з адломкам хамута над грывай, у наваколлі гаварылі пра гэта здарэнне цэлы тыдзень. Цяпер жа гавораць пра тое, колькі чый аўтамабіль жжэ бензіну на 100 кіламетраў, у якіх месцах можна спадзявацца на ўласныя сілы, а з якіх пяскоў ці багны выцягнуць машыну можна толькі з дапамогай пары конскіх сіл, вядома, не механічных, а звычайных – самых надзейных, чатырохногіх.

### Пра каго гавораць больш за ўсё

А калі дарога паспрыяе, а апошнім часам спрыяе нярэдка, і збярэцца дзесьці камплект машын, а хай сабе і паўкамплекта, а таксама пару конных вазоў, сёння ўжо нібыта анахранізмаў, размовы цякуць не на тэму палітыкі, не на тэму пана старосты і пані староставай, падатковай службы і іншых балячак, але на тэму пана палкоўніка. Чаму так сталася – невядома. Нічога пра яго больш падрабязна невядома. Добры ці благі? Мясцовыя людзі пакуль не могуць выказаць адназначны погляд так хутка. Бо няма яшчэ году як прыйшоў тут камандзірам КОПу (Корпус Охроны Пограніча – пагранічная застава, "РГ")!

Але неяк дзіўна складаецца, што ўласна ад яго прыезду ў Вілейку ўсё заварушылася. І Будслаў, і Лоўцавічы, і тое, і гэтае, і дзясятае… Чаму тое ці іншае дзейнічае? А, ну таму, што гэтага пажадаў пан палкоўнік. Размова на любую тэму прыводзіць урэшце да… пана палкоўніка.

Перад гэтым ніхто і не чуў пра пана палкоўніка Галадыку ў Вілейскім павеце. Сёння ім цікавіцца ўвесь павет, як свайго роду навіной і навіной, непадобнай да іншых. У Віленскім ваяводстве і далей – штораз больш чуецца пра Вілейскі павет.

У тым звычайным, шэрым, без колераў павеце з'яўляецца ўсё больш цікавостак, якія варта паглядзець.

Хто гэтаму віной?

Калі б мусіў на гэта адказаць адразу, літаральна праз некалькі дзён пасля вандроўкі па павеце – адказаў бы проста: ну, хіба пан палкоўнік.

**Пётр ЛЕМЕШ.**

Рэдакцыя ўдзячная краязнаўцу з Глыбокага **Кастусю Шыталю** за магчымасць пазнаёміцца з публікацыяй з "Kurjera Wilenskiego". Пераклад з польскай, падзагалоўкі і выдзяленні – нашы.

**"Рэгіянальная газета".**



Польскі Fiat 518. Аўтамабіль, які збіраўся ў Варшаве ў 1937-1939 годзе.

**Даведка "РГ".**

**Вілейскі павет.** Павет у Віленскім ваяводстве передваеннай Польшчы. У 1926 годзе частка тэрыторыі ўключна з Маладзечнам уваходзіць ў новаўтвораны Маладзечанскі павет. Па стане на 1939 год займаў плошчу 3427 квадратных кіламетраў (плошча Вілейскага раёна сёння 2452 кв. км), насельніцтва 131 тысяча 100, жыхароў у Вілейцы 5848.

**Зямяне.** Грамадская група, саслоўе, уладальнікі значных зямельных надзелаў. У перадваеннай Польшчы найчасцей прадстаўнікі шляхты. Інстытут зямянства фактычна перастаў існаваць у часы другой сусветнай вайны.

**Люцыян Жалігоўскі** (1865 – 1947). Генерал. Паплечнік Пілсудскага. Ураджэнец вёскі Пераходы, цяпер Смаргонскі раён. Стваральнік квазідзяржаўнага ўтварэння Сярэдняя Літва, якое ў 1923 годзе ўвайшло ў склад Польшчы.

**Стэфан Домб-Бярнацкі** (1890 – 1959). Польскі генерал. Паплечнік Пілсудскага.

● КАЛЯНДАР

11 ЖНІЎНЯ

**1127 год.** Першае ўпамінанне пра Гродна ў пісьмовых крыніцах (Лаўрэнцеўскі летапіс).

12 ЖНІЎНЯ

**100 гадоў** з дня нараджэння Ціхана Кісялёва (1917 – 1983), дзяржаўнага і партыйнага дзеяча Беларусі.

**1992 год.** Памёр Юрка Луцкевіч, вайсковец, настаўнік, сябар Беларускай незалежніцкай партыі, афіцэр батальёна "Дальвіц". Сын Антона Луцкевіча, вядомага дзеяча беларускага нацыянальнага руху. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, Віленскае тэхнічнае вучылішча. У канцы 1930-х вучыўся ў Варшаўскай політэхніцы, быў забраны ў польскую афіцэрскую школу. У верасні 1939 трапіў у нямецкі палон. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі ў гады Другой сусветнай быў дырэктарам беларускай школы ў Радашкавічах. Удзельнічаў у нацыянальным падпольным руху, у падрыхтоўцы антынямецкага паўстання ў Мінску ў канцы чэрвеня 1944, якое не адбылося. Пасля – у батальёне "Дальвіц". Разам з Усеваладам Родзькам вясной 1945 з Чэхіі перабраўся ў Польшчу з мэтай арганізацыі антысавецкага падполля і партызанскага руху. Арыштаваны ў Варшаве ў канцы 1945. Асуджаны на 25 гадоў лагераў "за здраду і супрацоўніцтва з ворагам". Зняволенне адбываў на Калыме. У Беларусь вярнуўся ў 1957, потым жыў у Вільні, там і пахаваны.

14 ЖНІЎНЯ

**80 гадоў** з дня нараджэння Льва Чырвонцава (1937), сябра нашай газеты. Жыве ў Маладзечне, а нарадзіўся ў Мінску. У 15 гадоў пайшоў працаваць у Вілейскую хімічную лясную гаспадарку (у той час яна была Маладзечанскай). Лічыўся грузчыкам, а быў слесарам па рамонце аўтамабіля. Пасля вайны ў многіх не было сярэдняй адукацыі, а цяга да вучобы была вялікая, таму вырашыў, што будзе вучыцца ў вячэрняй школе, якую скончыў у 1960 годзе. У 1968 годзе скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, у 1971-м – Мінскую вышэйшую партыйную школу. 49 год працаваў у Вілейцы і Маладзечне слесарам, токарам, майстрам, інструктарам ГК КПБ, дырэктарам КБА, на розных пасадах на маладзечанскім заводзе "Электрамодуль", старшынёй гарадскога камітэта народнага кантролю.

17 ЖНІЎНЯ

**110 гадоў** з дня нараджэння Здзіслава Стомы (1907 – 1992), акцёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Беларускія вышыванкі японцам да твару

ВІЛЕЙКА

**Японская дзятва вельмі ўпадабала беларускае марожанае. А маленькім японачкам пасуюць сукенкі з беларускім арнаментам.**

Сваімі ўражаннямі ад суправаджэння японскіх сямей на Вілейшчыне ў "Надзеі" падзялілася спецыяліст па сувязях з грамадскасцю дзіцячага Цэнтра **Таццяна Майсак.**

Пагутарыць з намі Таццяна змагла толькі пасля 2 жніўня, калі госці ўжо з'ехалі. Праграма знаходжання японцаў у "Надзеі" была настолькі насычанай, што на супрацоўніцтва з журналістамі Таццяне не было часу.

У зносінах японцам з беларусамі дапамагалі перакладчыкі. Адзін працаваў з японскім тэлебачаннем і кіраўніком японскай групы **Руічы Хіракава.** Другі дапамагаў кантактаваць японскім сем'ям з беларускімі, а таксама з супрацоўнікамі "Надзеі".

Японцы шмат размаўлялі з беларусамі. Больш за ўсё і адных, і другіх цікавіла тое, як у іх краінах людзі жывуць на забруджаных тэрыторыях. Па словах Таццяны, сем'і пасябравалі. Будуць кантактаваць праз сацыяльныя сеткі.

З адпачывальнікамі працавала псіхолаг "Надзеі" **Святлана Машынская.** Яна правяла гульні на знаёмства, папрацавала з японскімі матулямі.

Госці адзначылі, што ў Японіі псіхолагі мала працуюць з насельніцтвам, якое вымушанае жыць на забруджанай тэрыторыі.

Былі і медыцынскія працэдуры: араматэрапія, лекавая гарбата, саўна, масаж.

З "Надзеі" японскія сем'і сумесна з беларускімі выязджалі на экскурсіі. Наведалі памятныя камяні "Ахвярам Чарнобыля" і "Камень міру Херасімы" ў Мінску.

Былі ў алеі сакуры, Нацыянальным мастацкім музеі, кватэрах перасяленцаў з чарнобыльскай зоны, якія зараз жывуць у сталіцы.

Японцы набылі шмат беларускіх сувеніраў. Да спадобы гасцям былі вырабы з ільну, саломкі. У Японіі творы ручной працы высока цэняцца.

Для японскіх дзяўчынак набылі вышываныя ільняныя сукенкі, для хлопчыкаў – такія ж кашулі .

– Вы б бачылі, як прыгожа глядзяцца беларускія арнаменты на японцах! – падзялілася ўражаннямі Таццяна Майсак.

Наведалі госці і Гомельшчыну. Праўда, група з маленькімі дзецьмі туды не ездзіла: адразу пасля сталіцы вярнулася ў "Надзею".

А другая група наведала Гомель і Хойнікі. Сюды ўвайшлі журналісты японскага тэлебачання, а таксама Руічы Хіракава і японская матуля з дзвюма дзяўчынкамі 13 і 15 гадоў.

У зону адчужэння, вёску Бабчын, дзеці не ездзілі. Разам з матуляй чакалі журналістаў у Хойніках.

А ў гэты час першая група гуляла па Вілейцы. Былі ў цэнтры горада, вілейскім парку. Японскай малечы набывалі беларускія цацкі. А яшчэ, па словах Таццяны, усім вельмі спадабалася беларускае марожанае.

У "Надзеі" японцы праводзілі каларытныя майстар-класы па сваёй традыцыйнай культуры. Вучылі насіць кімано, вырабляць арыгамі. Паказалі прыёмы барацьбы Кэндо, прадэманстравалі сапраўдную чайную цэрымонію.

Па словах японцаў, іх уразіла гасціннасць, цеплыня, эмацыянальнасць, удзячнсць, узаемадапамога беларусаў. А вось у японцаў не прынята адкрыта паказваць свае эмоцыі.

Цікавым і незвычайным было харчаванне. Некаторыя стравы японцы пакаштавалі ўпершыню.

Журналісты наздымалі шмат матэрыялаў. Збіраюцца рабіць перадачу для міжнароднага вяшчання.

– Мы таксама засталіся задаволеныя зносінамі з замежнымі гасцямі, – дзеліцца Таццяна.

Японцаў у "Надзеі" сустракаюць не першы раз. З Чарнобыльскім дзіцячым фондам гэтай краіны тут супрацоўнічаюць ад 1993 года.

Аднак, па словах Таццяны, сёлета ў Цэнтры ўпершыню прымалі японскія сем'і, якія пацярпелі на катастрофы на атамнай электрастанцыі ў Факусіме.

Вось і цяпер, на працягу амаль усяго жніўня, пры фінансавай падтрымцы Чарнобыльскага дзіцячага фонду Японіі ў "Надзеі" папраўляюць здароўе 30 дзяцей з анкалагічнымі захворваннямі.

– Нават пасля катастрофы на факусімскай АЭС японскія партнёры не перасталі дапамагаць нам, – кажа Таццяна.

На яе думку, гэта сведчыць пра адказнасць японскага боку. І ў "Надзеі" вельмі высока цэняць гэта.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Карані скульптара Івана Арцімовіча з Куранца.

# У Вілейцы з'явяцца чатыры скульптуры ад сталічных мастакоў

ВІЛЕЙКА

**На гэтым тыдні ў Вілейцы пачынаецца абласны пленэр скульптараў "Вілія і яе берагі".**

На працягу амаль 20 дзён сталічныя майстры будуць ствараць скульптуры для горада. Днямі адбылося пасяджэнне спецыяльнага савета па дэкаратыўна-прыкладному мастацтву Мінаблвыканкама, дзе зацвердзілі працы скульптараў.

Паколькі ўсе мастакі працуюць выкладчыкамі ў сярэдніх мастацкіх навучальных установах Мінска, то спачатку трэба завяршыць выкладчыцкія справы.

Па словах начальніка аддзела культуры, ідэалагічнай работы і па справах моладзі вілейскага райвыканкама **Сяргея Паўлоўскага,** 8 жніўня скульптары прымалі экзамены ў абітурыентаў. Таму працаваць пачалі бліжэй да канца тыдня.

Якія ж скульптуры ў хуткім часе ўбачаць віляйчане на вуліцах свайго горада?

Праца кіраўніка пленэра, скульптара **Івана Арцімовіча** мае назву "Плынь". Яна адлюстроўвае прыгажосць Віліі. На каменных хвалях побач з рыбкамі – казачная русалка. Тэма Вілейшчыны знаёмая аўтару. Яго бацька скульптар **Анатоль Арцімовіч** нарадзіўся ў Куранцы.

Другі твор, прысвечаны Віліі – "Нявольніца Прыгажосць ". Яго аўтар **Павел Лявонаў**. Першапачаткова твор называўся "Скаваная рака".

Твор яшчэ аднаго ўдзельніка пленэру – скульптара **Арцёма Мядзведзева –** называецца "Водазахавальнікі". Праца ўяўляе сабой круглую каменную чашу.

На яе краях выбітыя абрысы дзевяці хат у памяць пра вёскі, якія ў 1970-ыя гады затапілі падчас будаўніцтва Вілейскага вадасховішча. Калі на вуліцы пойдзе дождж, расказаў Сяргей Паўлоўскі, у гэтых "хатках" будзе збірацца вада.

Некалькі эскізаў для зацвярджэння прапанаваў скульптар **Аляксандар Сакалоў**. Мастацкі савет абраў твор "Сям'я". Тут сямейныя каштоўнасці перададзены праз спрадвечны вобраз дзвюх птушак. Камень, на якім будуць сядзець птушкі, упрыгожыць беларускі арнамент.

– Усе скульптуры будзем устанаўліваць у горадзе, – расказаў Сяргей Паўлоўскі. – Цяпер вырашаем куды іх паставіць.

Па словах Сяргея Фёдаравіча, творы ўдзельнікаў паставяць адразу, як будуць гатовыя. Каменныя працы прымацуюць цэментам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




1 - Аляксандр Сакалоў "Сям'я".
2 - Іван Арцімовіч "Плынь".
3 - Павел Лявонаў "Нявольніца Прыгажосць".
4 - Арцём Мядзведзеў "Водазахавальнікі".

Эскізы забяспечаныя аддзелам культуры, ідэалагічнай працы і па справах моладзі вілейскага райвыканкама.



# ПРОСТЫЯ РЭЧЫ

"Рэгіянальная газета" працягвае праект "Простыя рэчы". Штомесяц мы будзем распавядаць аб прадметах, якія маглі б даўно стаць музейнымі экспанатамі. Але не сталі. Бо, як мы ўпэўніліся, і сёння ёсць людзі, якія карыстаюцца імі. Пра такія рэчы і іх гаспадароў мы раскажам у праекце. Можа, вы, шаноўныя чытачы, засцілаеце падлогу саматканымі бабулінымі палавікамі ці рэжаце траву для жывёлы ў сячкарні? А можа, нехта цішком тчэ на кроснах?

Тады тэлефануйце нам на нумар 8 (0176) 53-78-06, і мы раскажам вашу гісторыю. Галоўнае, каб гэта рэч не была музейным экспанатам, а і сёння служыла вам па прызначэнні.



Аўтар праекта Аксана ЯРАШОНАК.

# Жыхар Трапалава сумуе, што пасля яго сячкарняй не будзе каму карыстацца

МАЛАДЗЕЧНА

**Ужо сорак год Міхаіл Сапач, жыхар вёскі Трапалава, карыстаецца сячкарняй у сваёй гаспадарцы.**

Сячкарня – сельскагаспадарчая машына для рэзкі саломы на корм, а таксама для здраблення зялёнай масы раслін – перайшла Міхаілу ў спадчыну ад бацькі **Іосіфа Сапача**, а бацьку – ад дзеда.

Сам Міхаіл – пенсіянер. Яму хутка 70 гадоў. Аднак свойскую жывёлу яны з жонкай **Яўгеніяй** трымаюць. Для гэтага сячкарня і трэба.

Прыстасаванне стаіць у двары на адным месцы. Бо сячкарня вельмі цяжкая для таго, каб часта яе пераносіць.

### Зімой здрабняе салому, увосень – бацвінне

Зімой гаспадар на сячкарні здрабняе сена і салому для каровы, летам – зялёную траву. Ніяк без сячкарні і ўвосень. З яе дапамогай Міхаіл рэжа бацвінне буракоў для свіней.

Года выпуску на сячкарні не відаць. Можна толькі меркаваць, што пад сотню гадоў ёй дакладна.

А вось надпісы захаваліся добра. SSX Benland – у адным месцы і Benland. Prima №1 – у другім. Надпісы паказваюць на тое, што сячкарня, хутчэй за ўсё, айчыннай вытворчасці.

З гісторыі вядома, што фабрыка з такой назвай у 1930-х гадах мінулага стагоддзя працавала ў Лідзе. Там якраз рабілі розныя металічныя інструменты і сельскагаспадарчыя прыстасаванні.

Аднак і тады, калі сячкарні выраблялі пры Польшчы, старыя людзі прыгадвалі, што набыць яе было нялёгка.

### Меню для свойскай жывёлы

Карыстацца сячкарняй проста. Адзін чалавек круціць вялікае кола, а другі кладзе ў латок траву або сена і накіроўвае гэта пад рэжучую прыладу.

На выхадзе атрымліваецца сечка. Даўжыню яе можна было рэгуляваць.

Гэту сечку запарваюць кіпенем, дадаюць туды нешта больш-менш смачнае, напрыклад, буракі або канцэнтрат, і даюць жывёле.



Фота Міхаіла КАТА.

Міхаіл Сапач з Трапалава працуе на сячкарні з унукам Мішам.

**Пасля такой апрацоўкі эфектыўнасць кармоў значна ўзрастае.**

Калі ў ранейшыя часы кармоў не хапала, гэта простая канструкцыя дапамагала жывёлам пражыць усю зіму і дацягнуць да новага ўраджаю.

### А што тут умець? Кладзі ды круці

У гаспадароў дзве дачкі і трое ўнукаў. Яны дапамагаюць Сапачам па гаспадарцы. Дзесяцікласнік маркаўскай школы **Міша** і сямікласніца маладзечанскай школы №9 **Насця** часам падмяняюць бабулю і дзядулю. Бо яны таксама добра ўмеюць працаваць на сячкарні.

А што тут умець? Кладзі ды круці, – кажуць дзеці.

Аднак дзядулю крыўдна, што няма каму пакінуць сячкарню пасля сябе. Унук Міша хоча стаць доктарам, унучка Насця – настаўніцай. У вёсцы жыць не плануюць.

Дзед Міхаіл упэўнены, што такой цудоўнай тэхніцы, як сячкарня, варта ўжо даўно паставіць помнік за яе шматгадовую працу на ніве сельскай гаспадаркі.

## У калекцыі Уладзіміра Мароза з Маладзечаншчыны 107 сячкарняў

Фота Міхаіла КАТА.

МАЛАДЗЕЧНА

**Уладзімір Мароз (на фота) – аматар прыроды і даўніны, энтузіяст з Маладзечаншчыны – на ўласным двары калекцыянуе сячкарні.**

Сваю калекцыю Уладзімір збірае ўжо дзесяць год. Шукае сячкарні па ўсім рэгіёне і прывозіць іх у двор на ўласнай легкавой машыне з прычэпам. Такім чынам за дзесяцігоддзе калекцыянер сабраў 107 сячкарняў.

Пачалося ўсё з сячкарні роднага дзядулі. Яе Уладзімір прывёз з Крэва.

Адзін з экспанатаў у калекцыі – сячкарня, выпушчаная ў Амерыцы, у Нью-Ёрку. Яе калекцыянер знайшоў у вёсцы Кеўлы на Смаргоншчыне ў мясцовай настаўніцы.

Большасць экспанатаў зробленыя са сталі, чыгуна. А ёсць і эксклюзіў – сячкарня, цалкам зробленая з натуральнага дуба.

Калі прыгледзецца да надпісаў, выбітых на экспанатах, разумееш, якая шырокая геаграфія сабраных вырабаў: Польшча, Англія, Францыя, Італія, Літва, Латвія, Бельгія. Назвы краін, у якіх былі зробленыя сячкарні, вельмі добра захаваліся да сённяшняга часу.

Для кожнай сячкарні ў двары заліты асобны фундамент.

Сёння таксама ёсць гаспадары, якія выкарыстоўваюць гэтае прыстасаванне для здраблення корму свойскай жывёле.

Аднак часцей на сячкарню паглядаюць, як на музейны экспанат або прадмет упрыгожвання падвор'я. З'явіліся новыя, больш сучасныя прыстасаванні. Ды і свойскай жывёлы гаспадары ў вёсках сталі гадаваць значна менш.

А між тым, яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў таму ва ўласных гаспадарках вяскоўцы трымалі коней, кароў, авечак, коз, свіней. Корму не заўсёды было дастаткова.

Каб яго зэканоміць і больш рацыянальна выкарыстаць, для падрыхтоўкі кармоў вельмі многія гаспадары карысталіся сячкарнямі. Спачатку яна была ў гаспадарках багатых людзей. Потым стала больш даступнай і таму распаўсюджанай.

Уладзімір Мароз расказаў, што раней толькі ў Польшчы было 16 заводаў па вытворчасці сячкарняў. Вось якой запатрабаванай была гэта прылада. На пачатку 20 стагоддзя сячкарня каштавала 85 злотых. За гэтыя грошы можна было купіць дзве каровы.

З дапамогай такой тэхнікі зручна было здрабняць грубыя кармы – сена, салому. А летам рэзалі і свежую траву.

Калі з'явілася электрычнасць, пад сячкарні пачалі прыстасоўваць электрарухавікі. Тады нарэзаць сена або саломы мог і адзін чалавек.

Сячкарні варта паставіць помнік, упэўнены Уладзімір Мароз. Вось ён сваёй дзейнасцю і зрабіў гэта.

На сённяшні дзень калекцыянер шукае сячкарню з нажным кіраваннем.

**Мікалай КОТ, вёска Трапалава Маладзечанскага раёна.**

*Аўтарская калонка*

Сяргей УЛАДЫКА



## Выцягнуць сябе за валасы з балота не атрымалася

**– Колькі вам гадоў?**
**– Не памятаю!**
**– Я б даў менш!**
("Утаймаванне свавольнага")

На кантрасце. Менавіта так правялі матч супраць гасцей з Узды футбалісты маладзечанскай каманды.

Першы тайм сур'ёзна адрозніваўся ад другога прадуктыўнасцю агульнакамандных дзеянняў. У стартавай палове гульні падапечныя **Дараховіча** ледзь не ў кожнай атацы нагняталі становішча на палове поля супернікаў, нанеслі восем удараў па варотах, з якіх чатыры прыйшліся ў створ. Намаганнямі **Сіякі і Грыба,** якія дзейнічалі злева, каманда раз за разам разрывала абарону гасцей, і толькі нескладныя дзеянні ў завяршальнай фазе атакі не дазволілі нашым хлопцам вызначыцца раней за 28-ю хвіліну матчу.

Але калі **Галубовіч** пасля слаламнага праходу прабіў, а на адскоку добра спрацаваў галавой навабранец клуба – **Кошаль**, які пераправіў мяч у сетку варот прыезджай каманды, здалося, што зараз груз адказнасці за вынік спадзе з плячэй гульцоў і маладзечанцы пачнуць дзейнічаць больш вольна. Атрымалася роўна наадварот.

Калі першы тайм ФК "Маладзечна" па інерцыі яшчэ завяршыў у атацы, то пасля перапынку на суд гледачоў паўстаў зусім іншы варыянт каманды. Замест **Касцюка і Вышынскага**, якія нядрэнна праводзілі матч, на полі з'явіліся **Бажко** і яшчэ адзін навабранец – **Макараў.** Не сказаць, што гэтыя гульцы дзейнічалі пасіўна, але ўзаемадзеянне паміж усімі звёнамі каманды пагоршылася. Да 30-й хвіліны другога тайма ў актыве гаспадароў не было ніводнага ўдару ў створ пры двух ударах міма. На трыбунах пачалі пагаворваць аб тым, што хлопцы могуць "дастукацца".

Праз некаторы час, на 81-й хвіліне матчу, прароцтва спраўдзілася. Нападаючы гасцей падхапіў мяч на ўваходзе ў штрафную, даволі павольна прасунуўся з ім да лініі варатарскай, адкуль акуратна прабіў над **Галгоўскім**, які не здолеў зарыентавацца ў сітуацыі.

Нямая сцэна, у цэнтры якой расплывістая на лаўцы запасных фігура галоўнага трэнера Дараховіча – у яго паставе вельмі выразна праглядалася горкае перажыванне таго, што здарылася.

Маладзечанцы пабеглі адыгрывацца, слушна вырашыўшы, што дзесяць хвілін – цалкам дастатковы час, каб выцягнуць сябе за валасы з балота. Але наперадзе ўжо нічога не атрымлівалася. Ад ног футбалістаў, якія стараліся апрацаваць мяч, той адскокваў спрытней, чым ад дасценкі. Ды і пасы былі далёкімі ад ідэальных.

**Адчувалася, што камандзе не хапае крэатыўных дзеянняў Лавора, які адправіўся ў Мінск вырашаць міні-футбольныя задачы. Не хапае і спакою, які мог дазволіць больш пісьменна пачынаць атакі. У рэшце рэшт, не хапае актыўнасці з боку навабранца Кошаля.**

Нягледзячы на забіты гол, Сяргей, як падалося, правёў матч у энергазахавальным рэжыме. Не прымушаў абаронцаў знаходзіцца ў пастаянным напружанні, выкліканым дзеяннямі форварда. А ў многіх эпізодах аддаваў перавагу таму, каб не бегчы, не ўступаць у барацьбу, чакаючы больш спрыяльных шанцаў. А яны не здарыліся. Затое з'явіліся на табло выніковыя 1:1, якія зафіксавалі чарговы упушчаны маладзечанцамі шанец наблізіцца да запаветнага другога месца, што дае права на павышэнне ў класе.

Апошні раз у другім дывізіёне беларускага футбола ФК "Маладзечна" гуляў вельмі даўно. Не кожны заўзятар успомніць, колькі гадоў прайшло. Хаця б я даў менш.

Было гэта ў 2004-м...

# Сяргей Дараховіч:
# "Я не трымаюся за пасаду трэнера, сам буду гледачом, абы толькі Маладзечна іграла"

МАЛАДЗЕЧНА

**Размова з галоўным трэнерам ФК "Маладзечна" Сяргеем Дараховічам у нас атрымалася, хочацца думаць, шчырая. Пра перспектывы каманды, пра гульцоў і амбіцыі.**

А ведаеце чаму шчырая? Таму што сам Сяргей больш за ўсё ў жыцці і футболе ненавідзіць абыякавасць. А яшчэ галоўны трэнер вельмі далікатны чалавек. І прычыны няўдач у камандзе бачыць перш за ўсё ў самім сабе.

– Першым кругам незадаволены. Шмат пытанняў у плане гульні. Недапрацавалі, не выкладыліся на 100 працэнтаў. Той, хто не разумее кажа, што мне трэба быць больш жорсткім, патрабавальным. А я не магу. Таму што мы не прафесійны клуб, хлопцы прыходзяць на трэніроўкі, адпрацаваўшы на нагах цэлую змену, яны не могуць выкладвацца так, як хачу я. Каб я мог штрафаваць іх, караць рублём, я думаю, тады б і самі хлопцы на гульнях газон грызлі, дамагаліся выніку. А так…

Нават з трэніровачным працэсам узнікаюць пытанні:

– Калі я рыхтуюся да трэніровак, распісваю іх на цэлы тыдзень, арыентуюся на 20 чалавек. А бывае, што даходзяць 12, 13. Ну што тут зробіш?

**– А самі не хочаце выйсці на поле? Ёсць жа прыклады гуляючых трэнераў.**

– Куды? Смяшыць людзей? Хаця, магчыма, каб патрэніравацца. І то не. Я скажу праўду, я памыліўся, калі пераканаў **Андрэя Іваненку** ўзяць усіх мясцовых, магчыма, каб прыйшлі іншыя, то вынік быў бы другі. Хаця я цяпер не падзяляю футбалістаў на мясцовых і не.

Мы адна каманда "Маладзечна", нам і адказваць за вынік.

У мяне няма прэтэнзій да **Сіякі**, які выходзіць на поле, іграе, каціцца, б'ецца. А вось мясцовая моладзь наогул не гарыць жаданнем іграць у футбол. Далёка за прыкладам не трэба хадзіць: **Антона Талстога** я не бачыў на трэніроўках ужо паўтара месяца. А вось **Лукашоў** з Магілёва прыязджае, хоча іграць.

**– То бок, вы лічаце, што не ўсе выкладваюцца падчас гульні?**

– Выкладвацца? На полі паміраць трэба. Я гэта бачыў толькі ў адной гульні.



На Кубак. Тады да мяне суддзі падыходзілі, казалі, што гульня нашай каманды вартая лепшых гульняў з першай лігі. Ну павінна быць каманда з Маладзечна ў першай лізе!

**– Так, ад вас усе чакаюць першай лігі.**

– Ну хто ўсе? Нашы балельшчыкі хіба? Тады так. Я футбалістам сваім кажу, вы паглядзіце, хто вас падтрымлівае. Чаму нашы балельшчыкі лепшыя ў другой, ды нават і першай лізе, а вы толькі пятыя? Пасля хатняй гульні выпаўзаць са стадыёна трэба дзеля такіх балельшчыкаў.

**– Хто прыйдзе ў каманду ў другім крузе?**

– Калі ўсё складзецца, то 2-3 чалавекі прыйдуць. Іграе ў нас **Сяргей Кошаль**. **Віталь Макрыцкі** просіцца ў каманду, думаю, яго яшчэ памятаюць у Маладзечне. Хацелася б узмацніць атаку. **Лавора** ў нас больш няма, ён пайшоў у мініфутбол. Да абароны ў мяне пытанняў меней. Я наогул думаў, што з такой абаронай мы мінімальна прапускаць будзем. Аднак ляпы бываюць у кожнага. Прыязджае **Сяргей Дрозд** толькі па суботах, ён не трэніруецца. Але яшчэ не ўсё страчана. Пяць ачкоў ад другога месца – гэта не разрыў.

**– А не напружвае, што каманда з Чысці апярэджвае вас у турнірнай табліцы?**

– Не, ніякай рэўнасці да Чысці ў мяне няма. Я даўно прапаноўваў сесці разам з трэнерамі Чысці, з гарадскімі ўладамі за стол перамоваў і стварыць адзіную каманду, якая б магла іграць у вышэйшых дывізіёнах. І я не трымаюся за пасаду трэнера. Хоча **Мятліцкі** быць галоўным, – калі ласка. Я з задавальненнем буду сядзець на трыбуне, як глядач. Я проста хачу, каб каманда з майго горада гуляла! Уяўляеце, якая б каманда была? Але насустрач мне ісці не хочуць. Ну што, я паўгода толькі трэнер, я яшчэ сам вучуся.

**– У каго вучыцеся?**

– Канешне, хацелася б з'ездзіць на стажыроўку, але ў мяне сям'я, двое дзяцей, работа. Іх трэба карміць. Якія тут стажыроўкі? Раюся з **Кандрацьевым**, з **Валодзем Карыцкам.** Цяжка, канешне, тым больш з непрафесійнымі футбалістамі. Ведаеце, што ў нас маглі гуляць у камандзе гульцы з Жыткавічаў. Той жа **Лагуцін**, танк на полі, але я зрабіў стаўку на сваіх. Але свае крыху падводзяць. **Ігара Нарожніка**, калі вы заўважылі, у камандзе больш няма. Ігар сам падыйшоў да мяне і сказаў, што ў яго не атрымоўваецца і ён сыходзіць з футбола. Даіграў першы круг і вырашыў, што работа для яго важней. **Ігар Талькоўскі** на мяне пакрыўджаны за тое, што я яму выказаў за незабіты з аднаго метра гол у Мар'інай Горцы. Не трэба крыўдзіцца, трэба даказваць, што ты нечага варты. Добрая футбольная школа у **Радзівона Субача. Галгоўскі** добры варатар, самавучка. Але вось гаварыць не можа.

Радзівон размаўляе, Антону трэба было "школу дыктараў" закончыць. Не падказвае гульцам, маўчыць.

**– У суполцы ФК "Маладзечна" вам таксама задавалі пытанні неабыякавыя гледачы. Вось хлопец, напрыклад, спытаўся: "Ці звяртаецеся вы за парадамі да калег па "цэху"?**

– Я ў памочнікі браў чалавека, з якім змагу раіцца,якому буду давяраць, які мне не здрадзіць, не падставіць. **Мікалай Татун** – 100 % мой аднадумца. Я яму веру і спадзяюся, што ён не падставіць. Мы вучымся адзін у аднаго. Вучуся ў **Клоппа**, вельмі яго стыль падабаецца. Усё жыццё заўзею за "Ювентус". Таму за працай **Алегры** таксама сачу.

**– У чым асноўная прычына няўдач у першым крузе?**

– Напішыце, што ў ва мне. Я недапрацаваў. Калі праігрываем, часам хочацца заляцець у распранальню, кінуць бутэлькай, накрычыць і нават ударыць гульца, але стрымліваю сябе. Разумею, што не маю на гэта права. Я прашу толькі, каб больш аддаваліся гульні. Каб выпаўзалі з поля. Кажу ім: не зможаце ісці, я вас вынесу. Нельга так абыякава ставіцца да футбола. Магчыма, самі гульцы баяцца той першай лігі. Нарожнік, калі сыходзіў, сказаў: "Ну а што? Я ж у першай лізе іграць не буду". Магчыма і так, бо я таксама

**думаю, што калі каманда выйдзе ў першую лігу, там змогуць гуляць 2-3 чалавекі з усёй каманды.**

**– Вы гуляеце па схемах наіграных у міжсезонне або спрабуеце ўсё яшчэ эксперыментаваць?**

– Во спецыялісты , – усміхаецца Сяргей і папраўляе кепачку. – Напішыце, што схемы традыцыйныя: 4:2:3:1; 4:1:4:1. Спрабавалі іграць 3:5:2 – не атрымоўваецца. У мяне, бывае, нават рукі апускаюцца, калі я стараюся, распісваю схемы трэніровак, імкнуся нешта данесці, а ім, груба кажучы, на ўсё на***ць. Вось і атрымоўваецца, што каманда выйграла, а трэнер прайграў.

Бліжэйшая гульня ФК "Маладзечна" супраць каманды "Энергетык" адбудзецца 12 жніўня на гарадскім стадыёне. Пачатак гульні ў 18 гадзін.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Моцны крык з плачам.
3. Чучала для адпуджвання птушак у садах і агародах.
7. Статак коней
8. Бог ветру ва ўсходніх славян.
11. Развітальная вечарынка з сябрамі ў хаце жаніха.
13. Што нас корміць, а есці не просіць.
14. І нож з кароткім лязом, і жыхарка адной з паўночных краін
15. Максім… Псеўданім паэта, ўраджэнца Мядзельшчыны Яўгена Скурко.
16. Крупы з ачышчаных цэлых зярнят грэчкі.
18. Салата, якая ўзнікла ў 1918 годзе ў маскоўскай карчме і была задуманая як сытная закуска і сімвал народнага яднання.
19. Дзяўчына, чыё імя, згодна з легендай, дало назву Вілейцы.
22. Месца на Смаргоншчыне, дзе Міхал Клеафас Агінскі пісаў свае знакамітыя паланэзы.
23. Старажытнае гарадзішча на Смаргоншчыне, якое сёлета даследавалі археолагі.
25. Назва аднаго з вершаў Максіма Багдановіча.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Псеўданім паэткі Алаізы Пашкевіч
2. Бесталковы чалавек, дурань.
4. Мужаў брат.
5. Статуя гэтага бога была адным з сямі цудаў свету
6. Сакральнае дрэва бога Перуна, сімвал магутнасці.
7. У спартыўных гульнях вызначаны адрэзак часу, на працягу якога ідзе гульня.
9. Злы дух, сатана.
10. Страва з рыбы, у гонар якой правядуць фэст на Вілейшчыне
11. Грошы або рэчы, якія даюцца камунебудзь з мэтай подкупу.
12. Назва адзінага зборніка Максіма Багдановіча.
16. Хваёвы куст.
17. Балетныя туфлі.
20. Прозвішча фотамастака, ураджэнца Валожыншчыны, які нядаўна адчыніў выставу, прысвечаную Янку Купалу.
21. Прозвішча актрысы, ураджэнкі Мядзельшчыны, якая першая выканала ролю Паўлінкі ў аднайменным творы Купалы.
24. І кветкавая расліна сямейства бабовых, і скарочаная форма жаночага імя.
26. Дыпламаваны… Байка Кандрата Крапівы.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №31

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Валожынка. 4. Унізм. 5. Кабета. 6. Дзядзькаванне. 7. Шабаш. 8. Абцугі. 14. Кракавяк. 16. Лайка. 17. Язь. 18. Акарына. 20. Нёман. 22. Явар. 25. Ілот. 27. Алькоў. 28. Скрыпень. 29. Шыпшына. 31. Іл. 33. Лаваш. 34. Кравец.
**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Пасад. 3. Сырніца. 8. Арбеніна. 9. Бязрукаў. 10. Цэзій. 11. Каліна. 12. Шляхта. 13. Радашкавічы. 15. Факсіміле. 19. Індыга. 21. Рымар. 23. Понція. 24. Каёт. 26. Рысталішча. 30. Русалка. 32. Таполя.

## ГАРАСКОП 11-17 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Не дражніце Фартуну і старайцеся трымаць сябе ў руках. Крыўдлівасць і амбіцыйнасць цяпер не прынясуць вам карысці, пажынаць плады сваёй працы вам давядзецца крыху пазней.



**ЦЯЛЕЦ.** Мітусня і паспешлівасць пасяліліся ў вашым жыцці. Так шмат усяго трэба зрабіць, а за што ўзяцца – незразумела. Калегі і родныя будуць цягнуць вас у розныя бакі, літаральна разрываючы на часткі. Усім спатрэбіцца ваша дапамога. Самі ж вы будзеце знаходзіцца ў марах, толкам не разумеючы, а што трэба вам самім.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам спатрэбяцца інтуіцыя і цярпенне, каб данесці да партнёраў новыя ідэі. А каб адчуваць сябе камфортна, усё рабіце з прыцэлам на будучае. Магчымыя ўнікальныя сустрэчы і знаходкі.



**РАК.** Спрыяльна будуць развівацца падзеі на любоўным фронце. Вам пашанцуе ў каханні, і нават па-буйному. Адзінокія сустрэнуць чалавека, які можа стаць для іх ідэальным партнёрам на доўгія гады. У сямейных пачуцці ўспыхнуць з новай сілай і цеплынёй. І ўвогуле вам спадарожнічае ўдача. Толькі моцна не цягніце коўдру на сябе, і самі не застанецеся без яе.



**ЛЕЎ.** Нічога не адкладвайце на потым, нават калі работа не патрабуе спешкі. І сачыце за сваім здароўем. Памятайце, што месяц перад днём нараджэння і месяц пасля ваш арганізм найбольш уразлівы.



**ДЗЕВА.** Неабдуманыя ўчынкі з вашага боку і праяўленая неразважнасць могуць прывесці да страты значных сум грошай. Не будзьце такімі даверлівымі, бо гэтым могуць скарыстацца негатыўна настроеныя людзі.



**ШАЛІ.** Магчыма, на вашу галаву нечакана абрынуцца сямейныя праблемы, так што загадзя набярыцеся цярпення і сіл для іх вырашэння. Не адмаўляйцеся ад запрашэння, яго варта прыняць, і тады вы атрымаеце магчымасць займець, як мінімум, цікавага суразмоўцу.



**СКАРПІЁН.** Пераадолець цяжкасці і дабіцца добрых вынікаў вы зможаце толькі ў тым выпадку, калі будзеце цярплівыя і перастанеце патрабаваць ад жыцця ўсяго і адразу.



**СТРАЛЕЦ.** Энергія будзе біць ключом. Вы ў стане вырашыць усе пытанні, якія накапіліся за доўгія гады. Адносіны з блізкімі ў вас складваюцца не проста. Вы, як ніколі, яўна адчуеце праблему непаразумення паміж рознымі пакаленнямі. Але вось жа дзіўна, што спрэчкі не разрозняць, а толькі ўмацуюць сям'ю.



**КАЗЯРОГ.** На вас нойдзе нейкая нястрыманасць, ад чаго вы рызыкуеце сапсаваць адносіны нават з лепшым сябрам. Каб гэтага не адбылося, трымайце свае крыўдныя выказванні пры сабе. У спрэчных сітуацыях прыслухоўвайцеся да ўласнай інтуіцыі, яна не падвядзе вас ні сёння, ні заўтра.



**ВАДАЛЕЙ.** Вас чакаюць сур'ёзныя і часам балючыя перамены. Гэта трэба ўсвядоміць і прыняць, тады перамены змогуць гарманічна ўпісацца ў ваша жыццё, і вы зможаце жыць у змененых умовах. Раздумвайце, але не дзейнічайце. Чакайце пакуль сітуацыя сама складзецца спрыяльным чынам. Вы можаце атрымаць параду звыш, яна можа прыйсці як азарэнне ці ў сне.



**РЫБЫ.** Калі на вас наваліўся груз абавязкаў, клопатаў, то не адчайвайцеся. Цяпер іх менш не стане, але ў вас з'явіцца магчымасць давесці ўсё да розуму. Ад вас запатрабуецца ўседлівасць і напорыстасць, іншага шляху няма. Будзьце рашучыя і смела бярыцеся за справу.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## КУДЫ ПАЙСЦІ Ў ВЫХАДНЫЯ

### Бясплатны канцэрт дзіцячых калектываў правядуць у Маладзечне

13 жніўня ў 19:00 у Маладзечне зладзяць канцэрт у летнім амфітэатры ў гарадскім парку.

Выступяць дзіцячыя калектывы цэнтра культуры "Расток".

Уваход вольны.

### Моладзевае свята "уГервятах.by" правядуць ў аграгарадку Гервяты

**АСТРАВЕЦ**

12 жніўня маладых жыхароў і гасцей Астравеччыны чакаюць у аграгарадку Гервяты. Ад 10:00 тут распачнуць забаўляльную праграму. Пачнецца свята з адкрытага пленэру-конкурсу графіці.

У рамках свята зладзяць сямейны сельскагаспадарчы конкурс "Валадар сяла". Маладыя сем'і будуць удзельнічаць у конкурсах візітовак "Давайце пазнаёмімся", "Дрывасек" (распілоўка бервяна), "Сіўка-Бурка" (запрэгчы і распрэгчы каня), "Сельская спартыўная эстафета".

Ад 20:00 гасцей свята чакае моладзевая жартоўная конкурсна-гульнёвая праграма з абсыпаннем мукой "Сценка на сценку" і флэшмоб "Танцуюць усе", паказальныя выступленні раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях і канцэрт эстраднага выканаўцы. Завершыцца свята дыскатэкай.

На працягу вячэрніх мерапрыемстваў будзе працаваць выязны гандаль, пройдзе выстава-дэгустацыя кандытарскіх вырабаў.

### Ашмяны запрашаюць моладзь на фестываль субкультур

**АШМЯНЫ**

19 жніўня ў гарадскім парку Ашмянаў зладзяць фестываль моладзевых субкультур "Мы – разам".

Свята пачнецца ў 15:00 і працягнецца да 18:00.

Арганізатары правядуць фестываль фарбаў Холі і выступленне рок-гуртоў Memory, Meandr са Смаргоні.

Уваход вольны. Запрашаюцца моладзевыя калектывы, прадстаўнікі розных субкультур.

### У Куранцы зладзяць футбольны Спас

**ВІЛЕЙКА**

19 жніўня ў Куранцы правядуць штогадовы турнір па футболе. Ён пачнецца ў 10:00.

У праграме:
- футбольны турнір
- конкурсы для заўзятараў
- розыгрыш прызоў
- вясёлая музыка
- выязны гандаль

**Аддзел інфармацыі.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | | | | 6 | | | | |
| | | 8 | | | 1 | 7 | | 4 |
| | 1 | | 9 | | | 5 | | |
| | 4 | 3 | | 8 | | | | |
| 7 | | 6 | 4 | | 3 | 1 | | 8 |
| | | | | 1 | | 3 | 4 | |
| | | 5 | | | 2 | | 3 | |
| 4 | | 9 | 5 | | | 8 | | |
| | | | | 3 | | | | 5 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155
9771991715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

## 12 жніўня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +20 / +27 | | +21 / +32 | | +21 / +28 | | +16 / +22 | |
| | 741 | ↗ 0 | 739 | → 6 | 737 | → 1 | 743 | ↘ 4 |
| Вільня | +20 / +26 | | +21 / +30 | | +19 / +17 | | +13 / +20 | |
| | 747 | ↖ 2 | 744 | ↖ 5 | 745 | ↘ 4 | 751 | ↘ 4 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.45
Захад 20.51
Даўжыня дня 15.06

Усход 22.49
Захад 11.01
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +6,8 °С у 1982 годзе
Максімальная тэмпература +33,6 °С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,8 мм у 1989 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Конкурс русалак, спаборніцтвы па паяданні рыбных пельменяў і пірацкая вечарынка. Як прайшоў шоў на Вілейскім вадасховішчы фэст юшкі, на які Еўрасаюз выдзеліў каля 26 тысяч долараў, чытайце ў наступным нумары.**



● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Андрэй, ну, чаму ты ўвесь час крыўдзішся?
– Бо я Вова.

***

– Бабуля, я даеду да цэнтральнага рынку?
– Не!
Пасажыр выходзіць, бабуля садзіцца на яго месца: – А я даеду!

***

– Тата, а якое поўнае імя ў бабулі Клавы?
– Клаўдзія. А што?
– А мы з сябрамі думалі, што Клавіятура.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

## Што вам падабаецца ў вілейскім парку?



**Вікторыя Калачнік, прадавец :**
– Любім з сям'ёй бавіць час на дзіцячай пляцоўцы і на пляцоўцы з трэнажорамі.



**Іна Бауліна, бібліятэкар:**
– Лічу, што парк у нас хоць і невялікі, але ўтульны. Апошнім часам шмат новага там з'явілася. Маім дзяцям падабаецца скейт-пляцоўка, а таксама скульптуры казачных персанажаў, зробленых таленавітым майстрам. Думаю, што чалавек любога ўзросту можа ў вілейскім парку правесці час і застацца задаволеным.



**Вольга Танюкевіч, дырэктар ільянскага каледжа:**
– Парк у Вілейцы прыгожы. Але бываем мы там не так часта, як хацелася б, бо жывём у Ільі.



**Ігар Іваноў, кіроўца:**
– Неяк не задумваўся. Хаця праязджаю на машыне амаль кожны дзень. Напэўна, з усяго падабаецца найбольш прыгожы высокі спуск да Віліі.



**Марыя Кіпель, абітурыентка:**
– Парк падабаецца сваёй утульнасцю. Ёсць месца, можна і адной пасядзець адпачыць, і з сябрамі.



**Святлана Кавалеўская, бухгалтар:**
– Мне парк больш падабаўся раней, калі там было кола агляду. Цяпер яго вельмі не хапае. А падабаецца тое, што у парку праводзяць вясёлыя святы для маладых людзей і дзетак.



**Дзяніс Канецкі, старшына таварыства "Ахова помнікаў Беларусі":**
– Пасля нядаўняй буры парк згубіў шмат дрэў. Яшчэ пару такіх "ветрыкаў" – і мы можам без парка застацца. Яго трэба неяк абнавіць, але не чапаючы старых дрэў. Можна ад дарогі туі пасадзіць. Яны будуць глушыць гук машын, у парку стане менш пылу.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№32 (1163) 11.08.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 750. Падпісана ў друк у 9.00 10.08.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.